*Жыве Беларусь!*



# БЕЛАРУС

№ 458 • Кастрычнік-Лістапад 1998 г.
Год выд. 48

**BIELARUS** / Belarusan Newspaper in Free World. Published by the Belarusan American Ass'n, Inc.
**Address:** P.O. Box 310178, Jamaica, N.Y. 11431-0178, U.S.A. **Price $3.00**

## ПРЫВІТАНЬНЕ СТАРШЫНІ РАДЫ БНР ІВОНКІ СУРВІЛЛЫ

### 23-й СУСТРЭЧЫ БЕЛАРУСАЎ ПАЎНОЧНАЙ АМЭРЫКІ

Дастойны ўладыка!
Паважаныя айцы!
Дарагія суродзічы!

Маю вялікую прыемнасьць вітаць вас ад імя Рады БНР на гэтай 23-й Сустрэчы Беларусаў Паўночнай Амэрыкі, прысьвечанай 80-й гадавіне абвешчаньня незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі!

Больш за сорак гадоў мы так зьбіраліся што два гады, каб і спаткацца, а таксама каб ушанаваць нашую супольную спадчыну, выказаць вернасьць паняволенай Бацькаўшчыне, аб існаваньні якое ўсе мы стараліся інфармаваць вольны сьвет, тады як Масква запэўнівала, што беларус і расеец — гэта той самы савецкі чалавек.

Нарэшце прыйшоў дзень вызваленьня. Без змаганьня, без праліву крыві народу нашаму быў дадзены шанц адрадзіцца. Праўда, умовы ня былі ідэальныя. Пару гадоў перад тым 70% чарнобыльскае радыяцыі асела на Беларусі. Шанцу народ не заўважыў. Затое спадзяваўся, што ўвесь сьвет яму паможа пераждаць чарнобыльскі боль.



*І. Сурвілла й В. Станкевіч у часе 23-й Сустрэчы.*

Нажаль, Беларусь ня была прыярытэтам для Захаду, а мы ня былі падрыхтаваныя. Заходняя дапамога ішла ў Беларусь праз Маскву, і, бязумоўна, Масква й яе паплечнікі ў Беларусі — былая намэнклятура — выкарысталі гэтую акалічнасьць. Зноў пачалася прапаганда, што Беларусь бедная, ня мае ніякіх рэсурсаў, што толькі ў складзе «заможнай» Расеі яна палепшыць сваю долю.

Якая кароткая людзкая памяць! Вынікі нам усім ведамыя: выбар Лукашэнкі, рэфэрэндумы, шлях да інтэграцыі. Нават зьдзек над усім беларускім: над нашай мовай, над нашай будучыняй — моладзьдзю, — ня можа разбудзіць аслаблены Чарнобылем народ, для якога зноў адзіная мэта — пражыць да заўтра.

Наш разумны беларускі народ перастаў думаць. Асьлепшы, ідзе назад у няволю. Хай мне прабачаць за гэтыя словы ўсе тыя, што змагаюцца сёньня ў Беларусі за волю й незалежнасьць, за людзкія правы. Нажаль, зашмат ёсьць тых іншых, якія не разумеюць, што інтарэсы Беларусі не супадаюць зь інтарэсамі Расеі ды што толькі ў сваёй уласнай дзяржаве беларускі народ можа асягнуць лепшае долі.

За гэта ўсім нам баліць сэрца. Але вы ведаеце й я ведаю, што сьлёзы тут не памогуць. Дык што нам рабіць?

*(Працяг на с 5.)*

## СУСТРЭЧА Ў НЬЮ ЁРКУ... І ЯЕ НАСТУПСТВЫ

Міжнародная Ліга Правоў Чалавека, галоўная сядзіба якой знаходзіцца ў Нью Ёрку, арганізавала прыезд у Злучаныя Штаты былога судзьдзі Канстытуцыйнага Суду Беларусі Міхала Пастухова й адваката Веры Стрэмкоўскай, якая выступае ў беларускіх судох з абаронай перасьледаваных актывістаў апазыцыі. Сёлета спн. Стрэмкоўская заняла становішча старшыні Праваабарончага Цэнтру ў Менску. Госьці зь Беларусі правялі шэраг спатканьняў у Нью Ёрку й Вашынгтоне з прадстаўнікамі амэрыканскіх праваабарочных арганізацыяў, а таксама амэрыканскімі беларусамі. Адно гэткае спатканьне адбылося 23 верасьня ў Нью Ёрку.

У сваіх выступленьнях сп. Пастухоў і спн. Стрэмкоўская расказалі пра апошнія тэндэнцыі ў разьвіцьці Беларусі — паглыбленьне эканамічнага крызысу ды далейшае абмяжоўваньне свабоды слова й друку праз заканадаўства ды прэзыдэнцкія дэкрэты, якія пярэчаць нават самой лукашэнкаўскай канстытуцыі. На спатканьні з гасьцямі ў Нью Ёрку былі, апрача амэрыканскіх слухачоў, таксама два прадстаўнікі беларускае місіі пры ААН: У. Ванцэвіч і І. Губарэвіч. Адбылася дыскусія. Удзельнікам былі раздадзеныя сьвежыя дакумэнты й публікацыі дзеля пацьверджаньня інфармацыі, якою падзяліліся госьці зь Менску.

Неўзабаве факт крытыкі В. Стрэмкоўскай рэжыму Лукашэнка быў адзначаны ў лісьце прадстаўнікоў беларускай місіі пры ААН (якія й прысутнічалі на сустрэчы), скіраваным у Міністэрствам Замежных Справаў Беларусі. З гэтай прычыны Калегія Адвакатаў і Міністэрства Юстыцыі распачалі працэс пазбаўленьня В. Стрэмкоўскай права на адвакацкую дзейнасьць.

## АДМОЎЛЕНА Ў ВІЗЕ

Двум дэпутатам лукашэнкаўскага парлямэнту, Аляксандру Козыру й Мікалаю Чаргінцу, амэрыканскія ўлады адмовілі ў візе ў ЗША. Дэпутаты мелі намер узяць удзел у працы Генэральнай Асамблеі Арганізацыі Аб'еднаных Нацыяў. Нагадаем, што парлямэнт, створаны Лукашэнкам пасьля канстытуцыйнага перавароту ў 1996 годзе, не прызнаецца легітымным у дэмакратычным сьвеце.

## БНФ — 10 ГОД НА ПАЛІТЫЧНАЙ АРЭНЕ

18 кастрычніка Беларускі Народны Фронт сьвяткаваў свае 10-ыя ўгодкі. На плошчы Я. Коласа ў цэнтры Менску лідэры БНФ — Ю. Хадыка, В. Вячорка, Ю. Беленькі, С. Папкоў — сустрэліся з прыхільнікамі БНФ. 19 кастрычніка адбылася ўрачыстая вечарына, прысьвечаная юбілею.

## БЕЛАРУСКІЯ ТАНЦОРЫ — У ЗША

З 13 да 25 кастрычніка ў гарадох штату Мінэсота прайшлі канцэрты Беларускага Дзяржаўнага Ансамбля Танцу.

## БЕЛАРУСКАЯ СЭСІЯ НА КАНГРЭСЕ АМЭРЫКАНСКІХ СЛАВІСТАЎ

На кангрэсе Амэрыканскай Асацыяцыі Славянаведаў (AAASS), які прайшоў у Бока Ратон, Флорыда, адна з сэсіяў 27 верасьня была прысьвечаная разгляду становішча ў сучаснай Беларусі. Старшынявала на сэсіі прафэсар-эканаміст Ґэйл Стывэнсан. Даклады прачыталі: Аляксандра Гужон, дактарантка Парыскага Інстытуту Палітычных Навук, на тэму «Беларуская дзяржаўнасьць і палітыка А. Лукашэнкі»; др. Янка Запруднік — «Палітычныя партыі ў сучаснай Беларусі» й праф. Дэйвід Марплс — «Нацыянальная сьведамасьць у Беларусі: савецкі й постсавецкі пэрыяды». Меўся ўдзельнічаць у працы сэсіі сп. Язэп Арцюх, рэдактар *Belarusian Review*, з дакладам на тэму «Сродкі масавай інфармацыі ў Беларусі». На жаль, нядаўная апэрацыя на сэрца перашкодзіла сп. Арцюху ажыцьцявіць гэты намер. У беларускай сэсіі ўзяло ўдзел 16 асобаў. Адбылася цікавая дыскусія. Удзельнікі абмяняліся паглядамі, матар'яламі ды каардынатамі.

Значнай перашкодай правядзеньню кангрэсу стаўся ўраган «Жорж», дзеля якога шмат хто ня здолеў прыбыць на кангрэс (заміж звычайных дзьвюх тысячаў удзельнікаў было ўсяго каля 1300). Не адбыліся ў выніку гэтага й некаторыя даклады на беларускія тэмы. Тым ня менш сэсія, прысьвечаная сучаснай сытуацыі на Беларусі, прайшла вельмі ўдала пры поўным складзе дакладчыкаў і жвавым абмене думкамі. Усё гэта выразна сьведчыць пра рост міжнароднага зацікаўленьня Беларусяй ды роляй, якую яна можа адыграць у падзеях бліжэйшага часу.

## 2 ЛІСТАПАДА — ДЗЕНЬ МОВЫ

Пасьля ўсталяваньня незалежнасьці гэты дзень быў афіцыйна абвешчаны Днём Памяці Продкаў. Гэтымі днямі цэлы шэраг няўрадавых арганізацыяў, сярод якіх і рэдакцыя газэты «Наша Ніва», выступілі зь ініцыятывай абвесьціць гэты дзень Днём Мовы. У заяве арганізатараў гаворыцца:

«На прыклад Сусьветнай Арганізацыі Здароўя, якая раз у год праводзіць Дзень без цыгарэты, ініцыятары прапануюць 2 лістапада правесьці беларускі Дзень без чужога слова. Сёньня ў Беларусі ўжо тысячы людзей падтрымліваюць адраджэньне роднае мовы й нацыянальную ідэю. Але не сакрэт, што ў побыце, па-за культурніцкімі суполкамі гэтыя людзі гавораць, як правіла, не па-беларуску. У гэтым ім замінае псыхалягічны бар'ер і тая палітыка нецярплівасьці да беларушчыны, якая ў нашай краіне праводзілася не адзін год.

Дзень Мовы мусіць стаць для беларусаў Днём нацыянальнага здароўя. Ініцыятары мяркуюць і надалей праводзіць такі Дзень у другі дзень кожнага месяца і спадзяюцца на падтрымку ў гэтай справе ўсіх зацікаўленых асобаў і арганізацыяў.

Жыве Мова! Жыве Беларусь!»

## П. ГУШЧА — НА ВОЛІ

Сьвятар Пётра Гушча выпушчаны з турмы. 25 кастрычніка ён адправіў службу ў Сёмкавым Градку, што ў прадмесьці Менску.

## БЕЛАРУСЫ Ў НАРВЕ

Паўтара года ў гэтым эстонскім горадзе існуе Беларуска-Эстонскае Культурна-Асьветнае Аб'яднаньне «Спадчына». Упяршыню беларусы Нарвы сабраліся 8 сакавіка 1997 году, а аб'яднаньне зарэгістравалася ў ліпені 97-га. На сёньняшні дзень праведзены шэраг мерапрыемстваў: у 1997 і 1998 гг. прымалі ўдзел у Днях гораду — ладзілі беларускія творчыя пляцоўкі: выставы народнай дзіцячай творчасьці; праводзілі клюбныя сустрэчы «Мой родны кут, як ты мне мілы» — з успамінамі ды расповедамі аб сабе, сваёй пакінутай радзіме, сьвяткавалі Дзень Незалежнасьці разам зь беларусамі Таліна (1997) і гораду Йыхві, з БЭЗам (1998). У ліпені сёлета прымалі ўдзел у II Зьезде Беларусаў Балтыі. 12 верасьня адчынілі школку беларуска-эстонскай нацыянальнай культуры. Наладжваем працу творчай майстэрні.

Сярод сябраў «Спадчыны» ёсьць і маладыя, і людзі сталага ўзросту, зацікаўленыя захаваньнем беларускай культуры. Ёсьць у нас і таленавітыя дзеці.

Галоўная праблема ў тым, што Іда-Вірумаа (паўночы ўсход Эстоніі) — гэта расейскамоўны рэгіён (у Нарве ўсяго каля 10% эстонцаў!), а з 23000 беларусаў Эстоніі ў Нарве жывуць 2500. Беларусы нашага рэгіёну амаль што асыміляваліся ў расейскамоўным асяродзьдзі. Таму першачарговая задача нашай «Спадчыны» — захаваньне матчынай мовы. У сувязі з гэтым мы й займаемся арганізацыяй нядзельнай школкі, выходзім на радыё Нарвы й Таліна з паведамленьнямі аб жыцьці аб'яднаньня й з культурна-асьветнымі матар'яламі на беларускай мове. Гучыць яна, родная, у Эстоніі!

**Старшыня Аб'яднаньня**
**Тацьцяна Караткевіч-Цыганок**

## ЗЬ БЕЛАРУСКАГА ЖЫЦЬЦЯ

### «Вакол мяне кветкі прыгожа красуюць...»

#### Новая выстава ў Першай Беларускай Галерэі

Менавіта так — Першая Беларуская называюць сваю *Lincoln Terrace Art Gallery* яе гаспадары — мастакі Соня й Леанід Асеньнія. Знаходзіцца яна амаль што ў самым цэнтры Скокаў, блізкага паўночнага прадмесьця Чыкага. Нядаўна Соня й Леанід Асеньнія тут адкрылі выставу сваіх жывапісных твораў, на якіх — толькі напісаныя алеем натурморты з кветкамі. Такі й назоў гэтай выставы: *Успамін аб леце.*

Кветкі, вядома, заўсёды прыгожыя самі па сабе. Але асаблівую чароўнасьць яны набываюць ад позірку мастака. У розныя гады пісалі гэтыя карціны іх аўтары. І на розных землях — беларускай і амэрыканскай. Але яднае гэтыя палотны перш за ўсё прыгажасьць, стаўленьне да гэтай прыгажосьці. На выставе «Ўспамін аб леце» прыгадаліся вядомыя радкі Максіма Багдановіча якраз пра гэтае стаўленьне, пра гэтае пачуцьцё:

*І прад высокаю красою,*
*увесь зачараваны ён,*
*скланіўся я душой маёй...*

Квецень яблыні й вішні... Бэз... Магнолія... Сланечнікі... Стакроткі... Астры... Тульпаны... Дыхтоўны клясычны жывапіс, дакладныя мазкі й колер... Амаль што вучэбныя ўзоры. Адчуваньне таго, што за творчай манерай аўтараў стаіць сур'ёзная жывапісная школа. Дарэчы прыгадаць, што якраз 100 гадоў таму ў Віцебску І. Пэн адкрыў мастакоўскую школу, якая потым дала сьвету Шагала ды іншых найвыдатнейшых майстроў. У Іегуды Пэна вучыўся й Хаім Ліўшыц, бацька Соні й настаўнік Леаніда... Таму такі натуральны ў экспазыцыі твор Леаніда Асеньняга «Мастак з кветкамі», своеасаблівы арыгінальны партрэт Хаіма Ліўшыца.

Пра кожную карціну на гэтай выставе можна гаварыць асобна. І пра кампазыцыю натурморта Леаніда Асеньняга «Сухія кветкі зь Літвы», дзе букет — побач з раялем. І пра зусім нечаканы «Аўтапартэт» таго ж аўтара. І пра перадачу настрою ў «Чырвоных тульпанах» Соні Асеньняй. І пра яе твор «Кветкі на зялёным крэсьле».

З часам погляд Леаніда Асеньняга робіцца вастрэйшым, мастацкае абагульненьне натуральна злучаецца з падкрэсьленай дэталізацыяй, як у палатне «Стакроткі на блакітным».

«Васількі ў блакітнай вазе» Леаніда Асеньняга ўспрымаюцца ўжо зусім як нешта роднае й блізкае. Зноў успомніўся Максім Багдановіч:

*Вакол мяне кветкі прыгожа*
*красуюць,*
*маркотна між іх я хаджу адзінок,*
*аж бачу — мне сіняй галоўкай ківае,*
*наш родны, забыты ў цяні васілёк...*

Падумалася пра тое, што, напэўна, добра, калі «Васількі» ды іншыя творы Соні й Леаніда Асеньніх выклікаюць на гэтай экспазыцыі зусім не настальгічны настрой, а пачуцьце радасьці й захапленьня аднолькава прыгожым пад адным небам і на далекай і на блізкай кожнаму з нас зямлі.

Першая Беларуская Галерэя — ня проста заля для выставаў, але яшчэ й студыя, дзе вядуцца рэгулярныя заняткі зь дзецьмі. І ў гэтым бачыцца рэальны й так неабходны сёньня праця́г традыцыяў славутай віцебскай мастакоўскай школы.

11 кастрычніка ў Першай Беларускай Галерэі адчынілася выстава твораў маладога беларускага мастака Анатоля Упарта, які цяпер жыве й вучыцца ў Чыкага.

Адрас галерэі: 5027 Warren St., Skokie, Il., 60077, тэл. (847) 673-7308.

**Ванкарэм Нікіфаровіч**

## ВІНШУЕМ

доўгадовага й адданага грамадзкага дзеяча, былога сябру рэдкалегіі ды галоўнага кальпартэра газэты «Беларус»

**сп. БРАНІСЛАВА ДАНІЛОВІЧА**

**з 90-годзьдзем**

і жадаем бадзёрасьці, здароўя й прыемнага часу на заслужанам адпачынку.

*Рэдкалегія газэты «Беларус»,*
*Управа БІНІМу,*
*грамадзкія суполкі*

апостальскага візытатара для беларусаў

**айца АЛЯКСАНДРА НАДСОНА**

з 40-мі ўгодкамі сьвятарскае дзейнасьці

**BIELARUS**
Belarusan Newspaper in the Free World
Published monthly by
BELARUSAN AMERICAN ASSOCIATION, INC.
**Subscription $ 30 yearly**
**«БЕЛАРУС»** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
Выходзіць месячна. Рэдагуе Калегія
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
*Падпіска зь перасылкаю 30 дал. на год.*
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.
*Перадрук дазваляецца толькі пры ўмове зазначэньня крыніцы.*

## АДОЗВА–ПРОСЬБА

***Дарагія суродзічы, людзі добрае волі!***

Беларускі музэй у Гайнаўцы, будаўніцтва якога трывае ўжо каля 12 гадоў, патрабуе грашовае дапамогі для заканчэньня будоўлі. Ужо шмат зроблена: стаіць вялікі, хоць яшчэ й ня поўнасьцю выканчаны, будынак; сабрана вялізарная колькасьць цікавых экспанатаў, якія выдатна прадстаўляюць беларускую культуру Беласточчыны.

Беларускі музэй у Гайнаўцы мусіць стаць агульнай справаю беларусаў усяго сьвету. Музэй гэты, калі ён адчыніць шырока свае дзьверы для наведнікаў. будзе трывалым паказам багатай гістарычна-культурнай спадчыны беларусаў Беларусточчыны ды выдатным сьведчаньнем нашай вернасьці сваім традыцыям.

Найменшая ахвяра будзе прымацца зь вялікаю ўдзячнасьцю. Прозьвішчы ахвярадаўцаў будуць апублікаваныя ў нашай газэце.

Адрас для ахвяраваньняў:
Belarusian Digest
1086 Forest Hill, SE.
Grand Rapids, MI 49546

## ГУМАНІТАРНАЯ ДЗЕЙНАСЬЦЬ МІКОЛЫ ПРУСКАГА

Папулярная ў штаце Мічыган газэта *Grand Rapids Press* зьмясьціла ў сёлетнім нумары за 6 верасьня вялікі артыкул «Былы Ўсходні блёк мае сябра й дабрадзея ў мястэчку Каскейд». Артыкул ілюстраваны фатаграфіяй сп. Міколы Прускага, які стаіць каля свайго працоўнага стала з раскладзеным макетам газэты, якую ён выдае. Пад здымкам подпіс: «Мікола Прускі ў сваім офісе, дзе ён працуе над макетам газэты 'Беларускі Дайджэст'».

Карэспандэнтка Катлін Лонґкоўр узяла за эпіграф выказваньне Міколы, які сказаў пра дабрачынную дзейнасьць у адносінах да краінаў Усходняе Эўропы, у тым ліку Беларусі, чым ён займаецца ўжо шмат гадоў: «Справа гэтая дае мне пачуцьцё гонару й адчуваньне дасягненьняў, адчуваньне місіі — мець магчымасьць дапамагаць людзям, асабліва дзецям».

Беларускае грамадзтва найбольш ведае Міколу Прускага як нястомнага друкара, журналіста, выдаўца шмат якіх кнігаў, а цяпер выдаўца-рэдактара папулярнага «Беларускага Дайджэсту». Але мала каму ведамы другі бок жыцьця гэтага працавітага чалавека — гуманітарная дапамога ня толькі Беларусі й беларусам па-за ейнымі межамі, але й людзям у шмат якіх іншых краінах, часамі такіх аддаленых ад Беларусі, як Славенія.

Сп. Прускі пачаў сваю працу па гэтай лініі дзесяць гадоў таму ад перакладаньня лістоў на ангельскую мову, якія прыходзілі з краёў Усходняе Эўропы ў Агенцтва Міжнароднае Дапамогі (АМД), якое знаходзіцца ў штаце Мічыган. Паступова ён заглыбіўся ў справу дапамогі, калі сталася Чарнобыльская катастрофа, ад якое найбольш пацярпелі Беларусь і Украіна. За дзейнасьць у гэтым кірунку Мікола дастаў ліст падзякі ад генэральнага сакратара ААН Бутраса Галі.

Колькасьць дапамогі, аказанае АМД, вымяраецца дзясяткамі мільёнаў даляраў. Дапамога заключаецца ня толькі ў пасыланьні кантэйнэраў з вітамінамі, лекамі, вопраткай, мэдычнымі прэпаратамі й прыладамі, але і ў прывожаньні паражаных хваробамі дзяцей на апэрацыі й лячэньне ў Амэрыку. Скарыстала з гэткае магчымасьці й шмат беларускіх дзяцей.

Пішучы пра ўсё гэта, газэта коратка падала біяграфію Міколы Прускага, згадала пра ягоную сям'ю: жонку Веру, дачок Ганну й Софію, а таксама апісала выдавецкую працу Міколы. Газэта паведаміла таксама, што сп. Прускі ўзяўся за справу збору ахвяраў на заканчэньне будаўніцтва Беларускага Музэю ў Гайнаўцы.

Адносна гуманітарнае дапамогі, якою займаецца Мікола Прускі, газэта падала выказваньне прэзыдэнта Агенцтва Міжнароднае Дапамогі сп. Ральфа Плямба: «Сп. Прускі — гэта адзін з унікальных людзей, якія сваё спачуваньнеператвараюць у акцыю. Ён — бліскучы прыклад таго, як адзін чалавек можа пазытыўна ўплываць на жыцьцё тысячаў людзей».

**Я.З**

*Прывітаньне, шаноўная рэдакцыя газэты «Беларус»!*

Пішa вам сябра маладзёвай нацыянал-патрыятычнай манархічнай арганізацыі «Ліцьвіны».

Мы шукаем нашчадкаў княскіх дынастый, якія-б маглі прэтэндаваць на вялікакняскі пасад. У прыватнасьці мы маем зьвесткі, што князі Радзівілы жывуць у Амэрыцы. Ці маглі-б вы дапамагчы ў пошуках?

Будзем таксама ўдзячны за адрасы фундацыяў.

Калі вас цікавіць больш падрабязная інфармацыя аб нашай арганізацыі, будзем радыя з вамі ліставацца.

**Алесь Чорны**

а/с 124
246012 г. Гомель
BELARUS

*Паважаная рэдакцыя штомесячніка «Беларус»!*

У верасьні 1997 году ў газэце «Беларус» зьявілася невялікая заметка аб Нясьвіскай настаўніцкай сэмінарыі, якая дзейнічала падчас нямецкай акупацыі ў 1942–1944 гг. У студзені 1998 году Ваша газэта зьмясціла мой ліст з заклікам да былых навучэнцаў і настаўнікаў гэтае сэмінарыі — напісаць свае ўспаміны аб дзейнасьці гэтае навучальнае ўстановы.

Я атрымаў ліст былога настаўніка сэмінарыі, спадара Міхася Кожыча, якому зараз ужо 83 гады.

**Аляксандар Баханчык, Ваш сталы чытач**
*Гарадзея, Нясьвіскі раён*

*Добры дзень, дарагі мой Сябра!*

*Я думаю, нават лішнім будзе й пісаць, што гэты ліст Ваш з далёкага прошлага і зьдзівіў мяне, і ўзрадаваў. [...] Ад працы ў сэмінарыі асталіся толькі ўспаміны... Столькі бур праняслося над нашымі беднымі галовамі, што часамі дзівіцца, як мы яшчэ ўсё жывем. [...]*

*У здароўі даюць сябе знаць тыя мукі, якія прыйшлося перажыць пры зьверскім бальшавізьме. 18 гадоў у лягеры не прайшлі дарма. Я вярнуўся зь няволі ў 1966 г. Жылі з жонкай Марыяй у Казахстане, Узбэкістане. І вось доля занесла нас у Калінінградзкую вобласьць. [...]*

*У мяне толькі 13 гадоў стажу, хоць працаваў каля 40 гадоў. 18 гадоў у лягеры ня лічацца, і некаторыя гады ня прызналі, бо не ўдалося дастаць на іх дакумэнты. Таму пэнсія малая.*

*Апошнія гады перад маім арыштам мы з Марыяй працавалі ў харавой капэле Шырмы ў Горадні. Пасьля майго арышту яе звольнілі з работы. І вось часамі думаю, што тыя людзі, якія гналі мяне на бацькаўшчыне, калі яшчэ жывыя, недзе атрымоўваюць салідныя пэнсіі й жывуць у Беларусі. Як гэта несправядліва!*

*Але вернемся да ўспамінаў аб нашай сэмінарыі. Гэта быў ачаг беларускай культуры, мовы, усяго нашага роднага. Першы дырэктар Арэнь, выкладчыкі Шастаковіч, Тулейка, Рудакоўскі. Былі людзі, якія ня былі беларусамі, але сумленна выпаўнялі абавязкі настаўнікаў: Муха, Фамін, выкладчык фізкультуры Разгародзін. Пра Насэвіча я не магу чаго добрага сказаць. Я пазнаў яшчэ й двох яго братоў, і ўсе яны здраднікі. Помню ўжо пажылую жанчыну Крукоўскую, якая ўкладала душу ў працу. Была добрая моладзь, шмат разумных хлопцаў і дзяўчат. [...]*

# ПОШТА

## ПРА ЎСЕВАЛАДА РОДЗЬКУ

Прачытаўшы ў «Беларускім Дайджэсьце» артыкул Сяргея Ерша пра Ўсевалада Родзьку, пачуў душою, што я павінен напісаць аб ім больш падрабязна. Я быў разам зь ім пачынаючы з «Дальвіца» (Усходняя Прусія) да астатніх дзён. Зімою 1945-га я прылучыўся да дэсантнай часьці, дзе бліжэй пазнаёміўся з У. Родзькам. У гэты час савецкія танкі гналі немцаў на Захад, пачыналася адступленьне фронту.

Каля Шчэціна нашая часьць была адрэзаная савецкімі войскамі. Мы павінны былі прабрацца праз Сьвінэміндэ на пантонных лодках на нямецкі бок. Там па дарозе нашая дэсантная група сустракала многа беларусаў, якія былі вывезеныя ў Нямеччыну на працу. Яны з ахвотай далучаліся да нас. Мы стараліся сабраць чым больш беларусаў, каб пасьля разам перайсьці мяжу альбо спусьціцца на самалётах на Беларусь і працягваць барацьбу на сваёй роднай беларускай зямлі.

Усевалад Родзька быў галоўным камандзірам нашай дэсантнай групы. Ён быў таленавітым і адукаваным чалавекам, добрым афіцэрам-жаўнерам і добрым дыпляматам. Ён меў сваю палітыку й меў мэту: весьці барацьбу, пры ўсякіх умовах, — за незалежную, дэмакратычную Беларусь. Ён таксама не прызнаваў ніякай дыктатарскай улады. Усевалад не хацеў падпарадкавацца немцам, нават не хацеў насіць нямецкіх адзнакаў. Зразумела, немцам гэта вельмі не падабалася й яны ўжо мелі яго «на лісьце» [у чорным сьпісе]. Калі-б вайна прадоўжылася, Родзька быў-бы расстраляны немцамі. (Такія, як ён загінулі ў канцлягеры Дахаў, як, напрыклад, маёр Мікула).

У той час аслабленая нямецкая армія патрабавала дапамогі. Наш батальён немцы хацелі паслаць на перадавую лінію, але Ў. Родзька, якімсьці спосабам выйшаў з гэтага становішча. Гэтым самым ён выратаваў жыцьцё многіх беларусаў, таму што перад канцом вайны фронт зьвяўляўся сьмерцю.

У канцы сакавіка 1945 году наш парашутны батальён злучыўся з украінскім парашутным батальёнам. Украінцы прынялі нас як братоў. (Яні былі лепш арганізаваныя й баёва падрыхтаваныя, чым мы). У. Родзька навёў добрую сувязь з імі й заплянаваў разам перайсьці фронт і ісьці разам зь імі на Ўкраіну, а там — на Беларусь.

У гэты час да нас дайшла вестка, што вайна збліжаецца да канца. Мы апынуліся ў цяжкім становішчы. У траўні 1945 году наш батальён папаў зноў у акружэньне разам з украінцамі, літоўцамі й латышамі. Нямецкія танкі прарвалі кальцо, і мы былі вызваленыя. Тыя, што змаглі перайсьці ў той час на Захад, засталіся шчасьлівейшымі, чым тыя, што засталіся пад савецкай акупацыяй.

У час капітуляцыі мы з Родзькам знаходзіліся ў Чэхіі, у горадзе Габланс. З усіх бакоў была паніка, немцы ішлі ў палон (але гэта было ўсё арганізавана з нямецкай стараны). Мы ня кінулі зброю. Наш батальён разам з украінцамі пайшоў у лес, дзе савецкія самалёты заўважылі нас і пачалі кідаць бомбы, але, на шчасьце, ніхто ня быў забіты. Пасьля гэтай бамбёжкі мы рашылі разьбіцца на малыя групы (па 30–35 чалавек) і перабірацца далей на Захад. Мы пераадзеліся ў цывільную вопратку й разышліся. Родзька забраў мяне й абодвых маіх сяброў-землякоў у сваю групу.

Нашая група мела невялікі запас амуніцыі й ежы. На некаторы час мы засталіся ў чэскім лесе як «лясныя партызаны». Стараліся прабірацца на Захад, але дазналіся, што ўся чэская мяжа застаўлена саветчыкамі й пераход зрабіць ніяк немагчыма. Скончылася ежа. Да таго яшчэ, праз дзён пяць, чэская камуністычная партызанка «зацікавілася» намі й зрабіла абламу, але ня нас не змаглі знайсьці.

Пасьля гэтага мы зноў прадаўжалі паход і так дайшлі да вялікага маёнтка. У той час чэхі патрабавалі работнікаў і мы мелі шчасьце спыніцца там на некалькі дзён. Чэхі далі нам працу й месца выспацца.

З Чэхіі мы паехалі ў Польшчу, каб перабрацца ў Белавескую пушчу. У той час цягнікі былі перапоўненыя людзьмі. Нам заставалася толькі адна магчымасьць — ехаць на даху. Наша група апынулася ў цяжкім становішчы: бяз грошай, бязь ежы, бязь месца для адпачынку, але мы даехалі да польскай мяжы (бо цягнік далей ня ішоў), перайшлі яе й накіраваліся ўжо на польскім цягніку ў Кракаў. Там мы затрымаліся на некалькі дзён. Родзька й я пайшлі ў Ягелонскі Ўнівэрсытэт, дзе ён меў знаёмага прафэсара. Усевалад хацеў спаткацца зь ім (нам трэба было навесьці сувязь з амэрыканцамі й англічанамі), але абдумаўся.

Уночы нашая група падалася з Кракава на Варшаву. Польская сталіца была ў страшным становішчы: усё было разбуранае й спаленае. Мы перайшлі Віслу й выйшлі на Віленскую станцыю. Там нас захапіла ноч і мы засталіся начаваць пад пэронам. Раніцай я прачнуўся й убачыў вельмі худога хлопца ў кароткіх нагавіцах. Прыгледзеўся больш і пазнаў — Юрка Сянькоўскі (у той час яму было толькі 19 гадоў). Убачыўшы нас ён вельмі узрадаваўся й далучыўся да нашай групы.

Зь Віленскай станцыі мы паехалі ў Беласток. Браты Луцкевічы мелі ад Родзькі заданьне: па-першае, застацца ў Варшаве й навязаць сувязь з амэрыканцамі праз польскую партызанку (якая ў тым часе была вельмі актыўнай); па-другое, здабыць зброю. На дарозе з Варшавы ў Беласток Усевалад пазнаёміўся з маладой жанчынай, якая, па яе словах, прыехала з Латвіі, але жыла ў Беластоку.

У Беластоку мы затрымаліся ў пункце, дзе было многа людзей, якія ехалі зь Нямеччыны. Мы падаваліся, што мы з-за Буга й як «палякі» хочам застацца ў Польшчы. Нам далі працу па розных вёсках, блізка Беластоку. Я застаўся разам з Родзькам. Ва Ўсходняй Польшчы дзейнічала моцнае партызанскае падпольле. Зразумела, мы мелі магчымасьць перайсьці да партызанаў, але наш плян быў перайсьці на Беларусь і змагацца разам зь Вітушкам на сваёй зямлі. У той час Родзька падтрымліваў сувязь з братамі Луцкевічамі й чакаў падтрымкі.

Вайна зь Японіяй яшчэ ня скончылася. Пачалася барацьба савецкай арміі з польскімі партызанамі ў Белавескай пушчы. Памятаю, як я й Усевалад пайшлі на верхавіну гары й бачылі, як савецкія самалёты бамбілі партызанаў у лесе.

Родзька часта хадзіў да той маладой жанчыны, зь якой пазнаёміўся па дарозе ў Беласток. Па яго словах, ён хацеў праз яе навесьці сувязь з польскай партызанкай.

У гэтым часе закончылася вайна зь Японіяй. Усевалад стаў больш задуманым. Аднаго вечара ён кажа нам: «Пайду зноў да гэтай жанчыны, можа яна нешта дапаможа нам». Гэта быў астатні вечар, калі я яго бачыў. Ён не вярнуўся.

Раніцай другога дня я пабег да тае жанчыны. Яна сказала мне, што Ўсевалада ў яе ня было. Паміж намі пачалася паніка. Кожны думаў па-рознаму: ці Родзьку арыштавалі, ці ён пакінуў нас... Але нешта цёмнае адбылося зь ім. Мы ўсёж-такі не пакідалі надзеі, што ён вернецца.

Праз тры дні прыехаў да нас Кракасэвіч (ён раней быў у нашай часьці) і сказаў, што спаткаўся ў Варшаве з братамі Луцкевічамі й яны далі яму наш адрас, каб далучаўся да нас.

Чамусьці зь першага погляду ён стаўся мне падазроным. Па-першае, быў добра апрануты, зь ежай (кансэрвамі), калі мы нічога ня мелі; па-другое, ён часьценька выбягаў у горад «па газэтку» (ня ведаючы польскай мовы). Гэтым я быў вельмі зьдзіўлены. Праз тры дні прыехаў да нас Лявон Луцкевіч, забраў рэчы Родзькі й, не сказаў ніводнага слова, паехаў.

Пасьля ўсяго гэтага я зразумеў, што нешта здарылася з Усеваладам і нам небясьпечна заставацца ў гэтым месцы. Я рашыў, што трэба ўцякаць нам адтуль, і сказаў аб гэтым хлопцам. Юрка Сянькоўскі й яшчэ адзін чалавек са Стоўпцаў — ён дэзэртаваў з савецкай арміі й прылучыўся да нас у Беластоку — згадзіліся ехаць разам. У тойжа вечар мы й паехалі.

Летам 1995 году я сустрэўся са сваім сябрам-земляком з вайны (ён быў разам з намі й з Родзькам у Беластоку). Ён расказаў мне, што ноччу ўсіх нашых хлапцоў арыштавала савецкае НКВД. Пасьля яны дазналіся, што Кракасэвіч (ён быў з-пад Слуцка) здрадзіў іх. У Горадні адбыўся суд, дзе мой сябра з другімі, калі выходзілі з залі суда, бачылі, як туды ўводзілі Родзьку. Яго суд адбываўся асобна ад другіх, ніхто з нашых ня бачыў яго ні ў судзе, ні ў турме.

Усе хлопцы з нашай групы, хто застаўся ў жывых (можа, толькі пяць чалавек), адсядзелі па 11 гадоў у Сібіры. Паводле расказу майго сябра, яны трапілі ў лягер сьмерці, дзе з 3500 чалавек (там былі беларусы, літоўцы, латышы й эстонцы) засталіся ў жывых толькі 350 чалавек! І то толькі таму, што пасьля сьмерці Сталіна іх вывезьлі працаваць у шахты.

**На просьбу аўтара ліста, ягонае прозьвішча не падаецца.**

# 23-я СУСТРЭЧА БЕЛАРУСАЎ

## СЫМПОЗЫЮМ

### «Беларусь, БНР і дэмакратыя ў XXI ст.»

Вялі сымпозыюм шырака ведамыя ў беларускай грамадзе асобы — Галіна Русак і Юрка Азарка.

Прагучалі вітаньні Сустрэчы З. Пазьняка, А. Янукевіча, А. Старыкевіча, Л. Міхалюк, Д. Шўорца, В. Станкевіча, А. Белага.

Г. Русак пазнаёміла прысутных з плянам далейшай працы: удзельнікам сымпозыюму прапаноўвалася прыняць удзел у паседжаньні адной з наступных дыскусійных групаў:

1. Палітычная пэрспэктывы Беларусі: дэмакратызацыя й незалежнасьць (каардынатары Сяргей Навумчык, Вячка Станкевіч).

2. Роля дыяспары ў інфармаваньні й лябіраваньні ўрадаў заходніх краін дзеля атрыманьня падтрымкі ва ўсталяваньні сапраўднай незалежнасьці й дэмакратыі ў Беларусі (каардынатары Алеся Кіпель, Галіна Русак).

3. Беларуская дыяспара: разьвіцьцё агульнай асновы для працягу беларускае культурнае традыцыі ды палітычнае чыннасьці (каардынатары Ната Русак, Юрка Васілеўскі).

Судзячы па колькасьці прысутных, працягласьці й вастрыні дыскусіі, найбольшае зацікаўленьне ўдзельнікаў Сустрэчы выклікала праца трэцяй групы. Ня маючы магчымасьці падаць стэнаграмы, ніжэй публікуем толькі вузлавыя моманты дыскусіі.

**Л. Русак:** Цяжка камунікавацца, бо шмат хто перабраўся далей ад Нью Ёрку. Таму часта наведваць імпрэзы немагчыма. Дастаткова два разы на год праводзіць вялікія сьвяты, на якія магло-б прыехаць многа суродзічаў.

**Н. Русак:** Калі зьбірацца радзей, то будзе больш людзей.

**а. Зьм. Беленькі:** Народжаныя ў ЗША бачаць Беларусь такою, якою яна была ў 30–40-я гады. Моладзь з Кліўленду сказала: не паедзем, бо змарнуем час. Мэтады працы з моладзьдзю трэба мяняць: ідзіце ў царкву. У Кліўлендзе неўзабаве адновіць працу дапаўняльная беларуская школа. Будуць выкладацца беларуская мова, гісторыя Беларусі (па-беларускі) ды закон Божы (па-ангельску).

**К. Романо:** Сапраўды, я, як выхаванец беларускай школы ў Брукліне, згодны, што школа — найважнейшая справа. Школа лепш за ўсё гуртуе дзяцей.

**М. Сагановіч:** Трэба жаніцца са сваімі — у Біблії сказана: ня йдзі да іншых і не бяры іншых. Яднаньне дасьць царква.

**В. Тур:** Народжаных у ЗША ня так цікавіць палітычныя падзеі. Для нас больш важнае — адпачынак: спорт, пікнікі, балі.

**Л. Юрэвіч:** Я згодны зь Віктарам. Кожны з нас (думаю, гэта датычыцць усіх, а ня толькі народжаных у ЗША) цікавіцца ня толькі палітыкай, таму трэба, каб кожнае спатканьне з суродзічамі не канчалася маніфэстацыяй.

**Васілеўскі:** Царква — гарант захаваньня нас як супольнасьці.

**Ю. Азарка:** Царква — важна, але царквы не аб'ядноўваць нас, а разьдзяляюць. Два адгалінаваньні БАПЦ мусілі-б пайсьці насустрач адно аднаму. Але яны гэтага ня робяць.

**М. Сагановіч:** Габрэі выратаваліся, дзякуючы дзецям.

**А. Талянскі:** Трэба выдаваць беларускія кнігі для дзяцей.

**а. А. Верамейчык:** Нас непакоіць закалот у БАПЦ, стаўце гэтае пытаньне перад сьвятарствам, перад уладыкамі. Трэба пачаць з дыяспары, тады й на Бацькаўшчыне будзе надзея. Спадзяюся, што Ўладыка Мікалай і Ўладыка Ізяслаў прымірацца й БАПЦ вернецца ў Беларусь.

Гэты аспэкт дыскусіі знайшоў адлюстраваньне ў адмысловай Рэзалюцыі Сустрэчы (апублікаваная ў папярэднім нумары).

Узьнікла даволі вострая дыскусія, ня толькі на сымпозыюме, але й наагул у часе сустрэчы: на якой мове — па-беларуску й па-ангельску або толькі па-беларуску — павінна весьціся праца беларускіх арганізацыяў у Паўночнай Амэрыцы? Выявілася, што моўная праблема паўстала перад беларускай супольнасьцю як ніколі востра. З аднаго боку, вырасла пакаленьне беларусаў, для якіх беларуская мова другая, трэцяя, а некаторыя практычна не валодаюць ёю. Зь іншага боку, апошнія гады зьявілася шмат новых эмігрантаў, якія звычайна недастаткова добра гавораць і разумеюць па-ангельску, а нярэдка й зусім не валодаюць ангельскай моваю. (Дарэчы, па-за рамкамі афіцыйных выступленьняў прагучалі словы З. Пазьняка: «Беларусам тут няма чаго рабіць». Мелася на ўвазе тое, што шмат прамоваў у часе Сустрэчы гучала па-ангельску, безь перакладу.) Таму ўдзельнікі дыскусіі ад пэўнага моманту пачалі ажыцьцяўляць беларуска-ангельскі й ангельска-беларускі пераклад, каб сутнасьць дыскусіі была зразумелая ўсім прысутным.

**Ю. Азарка:** Нельга адсоўваць ангельскую мову. Мы не ў Беларусі.

**Ю. Васілеўскі:** Мы павінны зьняць пытаньне. Ангельская мова нам не варожая. Расейска мова — сымбаль акупацыі. Амэрыка — сымбаль свабоды.

**а. Дз. Беленькі:** Мы дастаткова інтэлектуальная нацыя, каб валодаць некалькімі мовамі.

Найвастрэйшую рэакцыю выклікала наступная праблема.

**Г. Навумчык:** Месца лякацыі Фундацыі Крэчэўскага вельмі нязручнае: у Кўінзе, далёка ад цэнтру. Трэба шукаць памешканьне ў Мангэтане. Яшчэ 25 год таму гэта можна было зьдзейсьніць адносна лёгка. Цяпер цяжка, але магчыма. Яшчэ праз 25 год такой магчымасьці ўжо ня будзе.




*Канцэрт. Выступае ансамбль Валянціны Пархоменкі.*

**М. Сагановіч:** Хто захоча — прыедзе й у Кўінз. Трэба шукаць, дзе таньней. А свабодныя грошы пусьціць на іншыя справы.

**Г. Навумчык:** Новая эміграцыя не атрымала адпаведнай падтрымкі. Калі ў Мангэтане мець службу дапамогі новапрыбылым эмігрантам, то яна дасьці прыбытак, зь якога можна будзе ўтрымваць будынак.

**А. Талянскі:** Ня трэба забывацца пра царкву ў Кўінзе.

**Л. Юрэвіч:** Давайце гаварыць пра тое, што мы можам рэальна зрабіць. Што нам замінае мець такую службу ў Кўінзе на базе сёньняшняй Фундацыі Крэчэўскага?

**С. Трыгубовіч** падтрымаў Л. Юрэвіча: Хто будзе працаваць у гэтай структуры? Спачатку трэба разьвіваць гэтую службу ў Фундацыі Крэчэўскага.

Гучала меркаваньне, што трэба наладзіць рэгістрацыю людзей, пастарацца аб'яднаць іх ня толькі на грунце нацыянальным, але таксама й прафэсійным, на аснове схільнасьцяў і зацікаўленьняў.

Усе згадзіліся на тым, што мусіць быць структура, якая магла-б прымаць людзей, дапамагаць ім. Выказваліся думкі, што такая структура павінна была-б узяць на сябе праблему працаўладкаваньня новапрыбылых. Гэтаму меркаваньню запярэчыў **Ю. Васілеўскі**: Немагчыма займацца працаўладкаваньнем на грамадзкіх пачатках, бо гэта такі-ж бізнэс, як любы іншы. Гэтага мы ня вырашым.

**А. Шукелойць** паінфармаваў, што робяцца намаганьні дзеля пошуку большага будынку. Гарадзкія ўлады Нью Ёрку маюць шмат закінутых дамоў у Мангэтане, і яны пайшлі-б на тое, каб перадаць памешканьне на ўзаемавыгодных умовах.

**М. Сагановіч:** Адкуль грошы на набыцьцё будынку?

**А. Шукелойць:** Частка грошай ёсьць, а каб сабраць астатняе — прыйдзецца патрусіць кішэнямі.

## У КУЛЮАРАХ СУСТРЭЧЫ

*Сустрэчы Беларусаў Паўночнай Амэрыкі даюць унікальную магчымасьць спаткацца зь людзьмі, якія жывуць за тысячы міляў ад Нью Ёрку. Прыяжджаюць сюды суродзічы й зь іншых кантынэнтаў ды, зразумела, зь Беларусі.*

*Гутаркі зь некаторымі далёкімі гасьцьмі Сустрэчы здаліся нам цікавымі й для чытачоў «Беларуса».*

**Аляксандар Старыкевіч, журналіст (Менск).**

Заўсёды, калі сустракаешся з дыяспарай, шчырае захапленьне выклікае тое, што людзі, якія даўно апынуліся па-за межамі Бацькаўшчыны, захавалі ня толькі ўласную мову, гісторыю, культуру, аднак і боль за родную старонку. Адчуваць сябе сярод сваіх — надзвычай прыемнае пачуцьце, якое, нажаль, далёка не заўсёды маеш на Беларусі.



Аднак мы ня мусім мірыцца з такім становішчам. Як-бы цяжка ні было, якімі-б пэсымістычнымі не выглядалі пэрспэктывы нашай краіны, гэта не падстава адмовіцца ад нашай агульнай мэты. У іншых кутках плянэты можна знайсьці што заўгодна — дабрабыт, спакой ды іншае. Усё, акрамя той пяшчотнай утульнасьці, якую адчуваеш выключна на радзіме. Дзеля аднаго гэтага варта працягваць справу адраджэньня Беларусі — і каб людзьмі звацца, і каб быць гаспадарамі на сваёй зямлі.

Прыемна, што Сустрэча Беларусаў Паўночнай Амэрыкі была зарганізавана на прыстойным узроўні. Асабліва мяне ўразілі прамова Старшыні Рады БНР Івонкі Сурвіллы, якая гаварыла лепш шмат каго з дэмакратычных палітыкаў, што дзейнічаюць на Беларусі, і бліскучы канцэрт, падрыхтаваны пад кіраўніцтвам Аллы Орсы-Романа.

Я меў вялікі гонар прысутнічаць на паседжаньні Прэзыдыюму Рады БНР. Упэўнены, што дыяспара здольная адыграць значную ролю ў палітычных працэсах на Беларусі. З гэтага пункту гледжаньня цяжка пераацаніць значэньне таго, што Рада Беларускай Народнай Рэспублікі захавала статус экзыльнага ўраду. Гэта ня проста традыцыя, гэта гарантыя нашай дзяржаўнасьці на выпадак, калі лукашэнкаўскія калябаранты здолеюць часова «обединиться с братской Россией».

Фактычна на час Сустрэчы мы, як у казцы, апынуліся ў краіне БНР. Варта было-б зрабіць, каб яна існавала ня два ні ў гатэлі *Hyatt*, а ўвесь час на ўсёй Беларусі. Зразумела, дзеля гэтага мы ўсе мусім шмат прапрацаваць. Аднак ашыя агульныя намаганьні абавязкова будуць мець плён. І я спадзяюся на хуткае спатканьне на вольнай Беларусі.

# ПАЎНОЧНАЙ АМЭРЫКІ

**Айцец Аляксандар Верамейчык, праваслаўны сьвятар (Менск)**

*«Б.»: Якім чынам Вы трапілі на Сустрэчу, хто Вас запрасіў?*

**а А. Верамейчык:** Мяне запрасіла адна з плыняў БАПЦ, якая ачалявецца мітрапалітам Ізяславам. Я атрымаў дазвол ад сваіх царкоўных уладаў прыехаць сюды й непасрэдна пазнаёміцца з жыцьцём праваслаўных у Паўночнай Амэрыцы.

*«Б.»: Да якой герархіі Вы належыце?*

**А. В.:** Да мітрапаліта Філарэта.

*«Б.»: Гэта значыць у герархіі Расейскае Праваслаўнае Царквы.*

**А. В.:** Я сьвятар і як сьвятар мушу служыць Госпаду Богу, а ўжо потым усё астатняе, у тым ліку й герархія.

*«Б.»: Ці Вы маеце свой прыход?*

**А. В.:** Справа ў тым, што я зараз у адпачынку. Свайго прыходу ў гэты момант ня маю. Да апошняга часу я служыў у саборы сьв. Пятра й Паўла ў Менску на Нямізе.

*«Б.»: Раскажэце пра сябе. Адкуль Вы паходзіце?*



**А. В.:** Бацька мой з Заходняй Беларусі, з-пад Драгічына, з праваслаўнай дваранскай сям'і. Маці — з цэнтральнай Беларусі, з каталіцкай сям'і. Усе матчыны сваякі былі высланыя ў Сібір за тое, што яны былі вельмі набожнымі людзьмі. Яшчэ змалку я выхоўваўся ў беларускіх традыцыях, гэта й перадвызначыла тое, што я стаў менавіта беларускім сьвятаром. І маю надзею, што нашая царква некалі стане незалежнаю й нашыя вернікі будуць зьвяртацца да Бога ў сваёй роднай мове.

*«Б.»: Якую Вы маеце адукацыю?*

**А. В.:** Як Вы ведаеце, раней атрымаць духоўную адукацыю было амаль немагчыма. Таму сярод праваслаўнага сьвятарства на Беларусі большасьць ня мае духоўнай адукацыі. Я атрымаў сьвецкую адукацыю — скончыў Тэхналягічны Ўнівэрсытэт. Працаваў майстрам на Беларускай Чыгунцы. Потым пачуўся пакліканым, стаў дыяканам і на пачатку году быў рукапалажаны ў сан сьвятара.

*«Б.»: Ці вы рэпрэзэнтуеце тут РПЦ?*

**А. В.:** Не, я знаходжуся тут прыватна. А што да маёй пазыцыі, то я раблю ўсё ад мяне залежнае, каб наша царква стала беларускаю.

* * *

**Лёля Міхалюк, старшыня Згуртаваньня Беларусаў Вялікае Брытаніі (Лёндан)**

Зь сярэдзіны 1990-х у нас назіраўся спад актыўнасьці. Гэта зьвязана найперш з тым, што мы засталіся бяз самых дзейных сябраў арганізацыі: ад нас пайшлі Алесь Жданковіч, Павел Асіповіч, Аляксандар Лашук, мой муж Янка Міхалюк.

Аднак летась і сёлета сытуацыя зьмянілася — да нас пачалі прыбываць новыя эміграны, некаторыя зь якіх вельмі рашуча ўзяліся за працу. Таму пэўнае зацішша ў беларускім жыцьці ў Вялікай Брытаніі зьмянілася ажыўленьнем дзейнасьці: мы часьцей пачалі ладзіць імпрэзы, на гэтыя імпрэзы зьбіраецца штораз больш суродзічаў.

## ПРЫВІТАНЬНЕ І. СУРВІЛЛЫ

(Працяг з с. 1)

Перад намі два заданьні: адное — разбудзіць наш народ; другое — даказаць сьвету, што Лукашэнка не рэпрэзэнтуе нашае Бацькаўшчыны, што гэта паразыт, які працуе не для Беларусі, а для нашых ворагаў, мэтай якіх ёсьць або нас фізычна вынішчыць, або поўнасьцяй асыміляваць у варожую нам культуру. Гэткая палітыка ізалюе наш край, робіць зь яго насьмешку сьвету. Заданьне кожнага беларуса — супрацьдзеіць гэтаму.

Цяпер мы мусім даказаць сьвету, што Драздны, забойства бязьвінных амэрыканскіх спартсмэнаў, вымаганьне мытнай аплаты за гуманітарную дапамогу абхвярам Чарнобыля, захапленьне гітлераўскім парадкам, перайманьне сталінскіх мэтадаў змаганьня з апазыцыяй, парушэньні правоў чалавека, цэнзура — усё гэта зьяўляецца замахам перад усім на беларускі народ! Так як Слабадан Мілошэвіч ганьбіць увесь сэрбскі народ сваімі паводзінамі ў былой Югаславіі, так Лукашэнка ганьбіць увесь беларускі народ сваімі паводзінамі як унутры, так і навонкі Беларусі. Як тут кажуць, we are being framed!

Трэба, каб зразумеў гэта таксама і беларускі народ. Цяперашні эканамічны крах у Расеі можа да гэтага спрычыніцца. Але трэба памятаць, як цяжка чалавеку прызнацца, што ўсё, чаго яго навучылі ад маленства, увесь яго сьвет — гэта ілжа. Дзеля гэтага якраз старэйшыя людзі так ахвотна слухаць Лукашэнку, бо ён ім кажа тое, што яны хочуць чуць, а менавіта, што яны не абдураны люд, што іхныя вартасьці рэальныя, што гэтыя вартасьці сапраўды існуюць.

Толькі моладзь, якая расла ў 80-х ды пачатку 90-х гадоў, здольная аб'ектыўна разрозьніць праўду ад няпраўды. Моладзь — нашая надзея, і дзеля гэтага рэжым так моцна стараецца знэўтралізаваць яе тэрорам. Дзеля гэтага судзілі Лабковіча, Шыдлоўскага, Кабанчука. Я веру, што яны будуць змагацца да перамогі.

А нам трэба весьці працу далей.

Пераконваць сьвет у геапалітычнай значнасьці Беларусі, у тым, што Беларусь — краіна багатая, так багатая, як Данія ці Швайцарыя, — таленавітасьцю й працавітасьцю свайго народу. Што не народ гэты, а Лукашэнка й яго чужое для нас акружэньне адказныя за цяперашні вобраз Беларусі ў сьвеце.

Пераконваць наш народ, што ён здольны — кожны з нас здольны — зрабіць зь сябе тое, што захоча; пераконваць наш народ, што ён можа стацца заможным гаспадаром у сваёй краіне, калі не дазволіць чужынцам зьдзекавацца над ім ды эксплюатаваць яго.

Рада БНР працуе над практычнымі спосабамі, як перадаць гэтую інфармацыю. Што нам трэба зрабіць, каб нас пачулі? Гэтымі днямі ўсе мы над гэтым думаем. Калісь амэрыканскі прэзыдэнт Кэнэды сказаў: «Ня пытайце, што край можа зрабіць для вас, — пытайце, што вы можаце зрабіць для гэтага краю». Сёньня прашу вас задумацца, што кожны з нас можа зрабіць, каб жыла Бацькаўшчына. Уклад кожнага важны. Нагадаю тут словы Караткевіча: **І адзін можа!**

Дык жадаю вам плёну ў працы!
Жыве Беларусь!

**Вячка Станкевіч, дырэктар Беларускай Службы Радыё «Свабода» (Прага)**

*«Б.»: Спадар Вячка, зь якой прычыны Вы тут, у Амэрыцы.*

**В. Станкевіч:** Па-першае, я бяру ўдзел у Сустрэчы Беларусаў Паўночнай Амэрыкі. Я бываў не на адной такой Сустрэчы. Гэтым разам абмяркоўваюцца новыя пытаньні. Таму ўзьнікла патрэба прыехаць. Прызнаюся, Сустрэча аказалася цікаваю.

*«Б.»: Якія ўражаньні ад гэтае Сустрэчы, бо Вы як удзельнік ранейшых Сустрэчаў можаце параўнаць гэтую Сустрэчу з папярэднімі?*

**В. С.:** Бачыцца шмат большы ўдзел людзей, якія адносна нядаўна прыехалі зь Беларусі. А паколькі спадзяваньні на лепшае жыцьцё ў Беларусі ня зьдзейсьніліся, то адчуваецца й расчараваньне ў зьвязку з сытуацыяй на Бацькаўшчыне. 5–6 гадоў таму была вялікая надзея на пазытыўныя зьмены, хацелася вярнуцца, адведаць, дапамагчы будаваць Беларусь, пра якую толькі марылі эмігранты ў свой час. Цяпер гэтага няма. Людзі ў роспачы: што далей?

*«Б.»: Тут давялося пачуць, што гэтая Сустрэча не такая шматлюдная, як папярэдняя.*

**В. С.:** Я гэтага не заўважыў, а калі гэта й так, то ў такой сытуацыі няма нічога дзіўнага, бо колькасьць людзей, якія прыяжджаюць у Амэрыку й далучаюцца менавіта да беларускай грамады, – меншая за адыход людзей дзеля веку.

*«Б.»: Цяпер да Вас пытаньне як да дырэктара Беларускай Службы Радыё «Свабода». Як зьмянілася за апошнія гады — ужо за часам Вашага кіраваньня — праца беларускай рэдакцыі?*

**В. С.:** Я прыйшоў на радыё тады, калі пачалі адбывацца вялікія зьмены. Раней практычна было немагчыма атрымаць інфармацыю беспасярэдне зь Беларусі; у канцы 80-х такая магчымасьць ужо ўзьнікла: у нас зьявіліся карэспандэнты ў Менску, мы змаглі адведаваць Беларусь. Зь пераездам радыё «Свабода» ў Прагу, што адбылося ў 1995 годзе, Беларуская Служба здабыла сабе цэлы шэраг новых супрацоўнікаў, кваліфікаваных спэцыялістаў, якія падвысілі ўзровень працы нашага радыё.

*«Б.»: Нам стала вядома, што ў кастрычніку Вы пакідаеце працу на Радыё. Якія Вашыя далейшыя намеры?*

**В. С.:** Па-першае, думаю й надалей трымаць кантакт з Радыё «Свабода», як зь Беларускаю Службай, так і з цэлай установай. Пляную рабіць перадачу, у якой буду браць інтэрвію зь цікавымі людзьмі, раскіданымі па цэлым сьвеце. А цяпер пра другую дзялянку. Гаворачы зь людзьмі пра сёньняшнюю сытуацыю ў Беларусі, часта назіраю ў іх пачуцьцё залежнасьці: «залежыць ад Амэрыкі», «залежыць ад Расеі», «залежыць ад... (імя таго ці іншага палітыка)». Вельмі рэдка людзі гатовыя сказаць: «залежыць ад мяне» ці «залежыць ад нас, ад такіх, як я». Таму пляную падрыхтаваць падручнік, сэрыю сэмінараў, якія маглі-б вучыць людзей — ня масава, а аднаго за адным — падставам асабістай незалежнасьці й як гэтую незалежнасьць уключыць у незалежнасьць грамадзтва й незалежнасьць дзяржавы. Каб зьдзейсьніць гэты плян я маю крыху жыцьцёвай падрыхтоўкі. Патрабуецца шмат працы, шмат каардынацыі, я ўжо пачаў гаварыць зь людзьмі як у сэнсе працоўнай, так і ў сэнсе фінансавай дапамогі з надзеяй, што зьдзяйсьненьне гэтага праекту можа даць вялізныя вынікі.

*«Б.»: Ці мяркуецца павялічыць працягласьць беларускіх перадачаў Радыё «Свабода», увесьці новыя, напрыклад, музычныя праграмы?*

**В. С.:** Так, пашырэньне мяркуецца. Адна бяда ў тым, што бюджэт Радыё ў цэласьці не павялічваецца, а нават скарачаецца з прычыны інфляцыі. Але таму, што патрэба ў перадачах Радыё на Беларусі шмат большая, чым у іншых краінах, на якія перадае Радыё, мы падалі праект, як пашырыць беларускія перадачы. Таксама робіцца пэўныя крокі ў кірунку пашырэньня рэтрансьляцыі на сярэдніх хвалі. Калі гэта ажыцьцявіцца, узьнікнуць новыя магчымасьці, у тым ліку — магчымасьць увядзеньня музычнае праграмы й, што яшчэ важней, пашырэньня кола слухачоў.

*«Б.»: Ці рабіліся досьледы, колькі беларускія перадачы «Свабоды» маюць слухачоў у Беларусі?*

**В. С.:** Лічба ўзрасла, найперш з прычыны абмежаваньня інфармацыі ў самой Беларусі. Аднак насуперак тэндэнцыі ўзрастаньня ідзе тэндэнцыя зьніжэньня колькасьці слухачоў: старыя радыёпрыймачы перастаюць працаваць, а набываць новыя няма за што. Такім чынам, сёньня мы маем ад паўмільёна да паўтара мільёна слухачоў.

*«Б.»: Каго Вы бачыце сваім наступнікам на пасадзе дырэктара беларускай «Свабоды»?*

**В. С.:** Гэта чалавек павінен адпавядаць такім крытэрыям: журналісцкі досьвед, веданьне сытуацыі ў Беларусі, валоданьне ангельскай мовай, ініцыятыўнасьць. На маю думку, гэта мог-бы быць ведамы ў Беларусі журналіст Аляксандар Лукашук, які неадназразова выконваў абавязкі дырэктара пры маёй адсутнасьці. Думаю, астатнія супрацоўнікі рэдакцыі дапамогуць Аляксандру трымаць перадачы Беларускай Службы на дасягнутым узроўні.

*«Б.»: Пытаньне, якое гучыць на ўсіх працоўных імпрэзах Сустрэчы: што выратуе Беларусь?*

**В. С.:** Беларусь выратуе адроджанае пакаленьне. Гэта ня значыць, што я кажу пра новае, будучае пакаленьне, якое зьявіцца праз 20 гадоў. Я кажу пра людзей, якія пачнуць думаць інакш — незалежна, якія пры існаваньні глябальнай інфармацыйнай прасторы не дазволяць, каб пера імі нехта зачыняў дзьверы, каб ім нехта затыкаў вушы. І такія людзі ёсьць, яны растуць. Ёсьць яны й сярод студэнтаў, і сярод прадпрымальнікаў. То маем надзею на зьмену сытуацыі. А тую ролю, якую адыгрывае Радыё «Свабода», маглі-б адыгрываць і іншыя радыёстанцыі: «Голас Амэрыкі», *BBC, Deutsche Welle.* Усе яны маглі-б паспрыяць зьнікненьню інфармацыйнага вакууму на Беларусі.

* * *

**Аляксей Янукевіч, выканаўца абавязкаў старшыні «Маладога Фронту» (Менск)**

*«Б.»: Якія ў Вас уражаньні ад Сустрэчы?*

**А. Янукевіч:** Самым цікавым было сустрэцца зь беларускай эміграцыяй, зь людзьмі, якія даўно пакінулі Беларусь, а некаторыя нават нарадзіліся й выраслі тут, але ўсё роўна лічаць сябе беларусамі, захавалі сваю культуру й ідэнтычнасьць, памятаюць аб праблемах сваёй краіны й жывуць гэтымі праблемамі. Мне было радасна ўбачыць, што так шмат людзей тут, у Паўночнай Амэрыцы, не пагубляліся, трымаюцца разам.

На мой погляд, уяўленьне пра сытуацыю на Беларусі тут ня зусім адпаведнае.

(Працяг на с. 8)

## АРХІВЫ БНР

*Прэзыдыюм Рады БНР, стварыўшы Архіўны Аддзел, пастанавіў зьбіраць і друкаваць у меру магчымасьці сыстэматычна разам зь Беларускім Інстытутам Навукі й Мастацтва, газэтай «Беларус» дакумэнты БНР. Час ня быў літасьцівы да нашых архіваў, часткі якіх сёньня захоўваюцца ў шматлікіх прыватных зборах. Сабраныя разам, дакумэнты стануцца ня толькі помнікам, але й доказам нашай дзяржаўнасьці.*

7 красавіка 1942 г.

Бэрлінскаму Беларускаму Камітэту Самапомачы

*Часапіс друкаваўся ў Бэрліне.*

Часапіс «25 Сакавіка» атрымаў і прачытаў з надзвычайным задавальненьнем. Сардэчна ня толькі дзякую, але й радуюся за яго выдаўцоў, у якіх я бачу выразіцеляў патрыятычнай часткі новага пакаленьня беларускага грамадзянства, якая, як відаць, думае дастойна заступіць сабою першых адраджэнцаў Беларусі.

Шчасьлівая тая старонка, якая мае патрыятычную і ахвярную моладзь, гатовую палажыць сваё жыцьцё за свой народ, за сваю Бацькаўшчыну.

Спадзяюся разам з Вамі, што ўся наша беларуская моладзь будзе ўрэшце-рэшт як нацыянальнай, так і ахвярнай.

Ніхто ня мае права насіць такоеназовы, якой ня можа апраўдаць сваёй дзейнасьцю. Таму і ўся наша беларуская моладзь павінна ня толькі лічыцца, але й запраўды быць надзеяю свайго народу.

Перад беларускай моладзьдзю як моладзьдзю паняволенай старонкі стаіць вялікае й адказнае заданьне. Ад яе патрабуецца перш-наперш моцная нацыянальная загартаванасьць, а за тым ня менш цьвёрдасьць у барацьбе з ворагамі беларускай свабоды, беларускай культуры й беларускага дабрабыту.

Беларуская моладзь, як і кожны беларус, павінна цьвёрда помніць, што з насільствам, як фізычным, так і духоўным, трэба бароцца ўсімі спосабамі.

Беларус быў заўсёды чрэзьмерна гуманным, часта нават на шкоду сабе. Так было ў мінуўшчыне, але так не павінна быць у сучасную пору, калі ўсё добрае з боку Беларусі абернута няўдзячнымі суседзямі на зло.

Пры такім палажэньні ў дадзены момант беларус ня мае права паступаць інакш, чым паступаюць іншыя паняволеныя народы, якія ўспомненую барацьбу лічаць ня толькі сваім правам, але й неадменным абавязкам.

Барацьба ўсімі сродкамі павінна вясьціся бязупынна да тае пары, пакуль Беларусь ня будзе пазбаўлена ад чужога панаваньня й пакуль у ёй як незалежнай дзяржаве не запануе сам Беларускі Народ.

Праўнай падставай для барацьбы за дзяржаўную незалежнасьць Беларусі зьяўляецца Вялікі Акт 25 Сакавіка, гэты сымболь нашае свабоды, ад якога ня мае права адступіць ні водзін беларус.

Пастанова Ўсебеларускага Кангрэсу 1917 г. і Акт 25 Сакавіка 1918 г. зьяўляюцца юрыдычнай асновай праўнадзяржаўнага грунту Беларусі, узнавіўшай гэтымі дакумантамі свой дзяржаўны сувэрэнітэт.

Занехаеньне, а яшчэ горш, страта гэтага грунту была-б найбольшым праступленьнем перад мінуўшчынай, сучасьсю й будучынаю нашае дарагое Бацькаўшчыны.

Здрадна зыйсьці з шляху, указанага Актам 25 Сакавіка, гэта ня толькі моцна абразіць свой народ, але й запляміць імя сваіх дзяцей.

Беларусь была й мусіць быць выключнай уласнасьцю Беларускага Народу. На гэтай падставе Яму, Беларускаму Народу, а не імпэрыялістычным прыблудам, павінна належаць права на панаваньне ў ёй.

Змаганьне за гэтае, цяпер патоптанае ворагамі, права ёсьць сьвяты абавязак кожнага беларуса, які ніколі не павінен паддавацца хлусьні акупантаў аб іх праве, прыязьні й дабраце. Наадварот, адкідаючы ашуканства, яму належыць заўсёды памятаць той факт, што падняволеная нацыя, будучы ў падданстве нават у найкультурнейшай дзяржаве, палітычна абмяжоўваецца, а гаспадарча й сацыяльна выкарыстоўваецца.

Каму толькі ня ведама, што акупанты Беларусі выжыралі з нашае старонкі мільярды, не даючы з таго нічога Беларускаму Народу. Але калі-б нават і знайшоўся сярод іх такі дабрадзей, што нешта й даваў, дык і тагды такая падачка была-б раўназначнай абразе, выцякаючай з таго, што мяне дашчэнту абакралі, але нешта з таго й мне далі.

Беларусь бачыла на сваёй зямельцы нямала «культуртрэгэраў», закрываўшых у першую чаргу беларускія школы, але ня бачыла з іх боку ня толькі гуманнага, але й праўнага адносшаньня ні да Беларускага Народу, ні да яго маёмасьці.

Іх панаваньне на Беларусі — гэта разбой і грабества, было такім гвалтоўным, супраць каторага пратэставала й пратэстуе ўсё, што толькі ёсьць жывога на Беларусі.

Калі глянуць у аблічча акупантаў Беларусі, то знойдзем, што кожны зь іх падобны адзін на другога, з выразнай пячаткаю на твары шэльмы, плута й ката.

Кожны зь іх быў на Беларусі не культурным і гуманным правіцелем, а грабежнікам, абскурантам і асыміляатарам, здольным толькі на выпампоўваньне з Беларусі багацьцяў і на перасьледваньне й нішчаньне Беларускага Народу як асобнай нацыянальнай адзінкі.

Яны дзялілі, парцэлявалі й анэксыравалі Беларусь бязьлітасна й ствалі для Беларускага Народу такое «жыцьцё», перад якім дантаўскае пекла зь яго фантастычнымі мукамі бляднее й здаецца дзіцячаю забаўкаю.

Такіх «братоў», «прыяцеляў», «культурных місыянэраў», як гэтак звалі сябе акупанты-анэксыянэры Беларусі, не павінна насіць беларуская зямелька.

Іх выгнаньня з нашай калісьці магутнай і славутай старонкі патрабуюць ня толькі наш дабрабыт і нацыянальны гонар, але й нашыя продкі, гэніем каторых у свой час была створана Беларуская дзяржава з граніцамі ад Балтыйскага да Чорнага мора.

Нашы слаўныя продкі даўна не пацярпелі-б гэткага смуроду на беларускай зямельцы. Адышоўшы-ж на вечны адпачынак, яны цяпер глядзяць на нас, што мы будзем зь ім рабіць?

Браты! Так выканаем жа наш абавязак!

**Старшыня Рады В. Захарка**

***Архіўны Аддзел Рады БНР зьвяртаецца да ўсіх, хто мае такія дакумэнты (пратаколы, ліставаньне, фотаздымкі, друкі), дасылаць арыгіналы (ці копіі) на адрас Архіву Рады БНР. Пра дасланыя матар'ялы будзе паведамляцца ў газэце «Беларус».***

## НОВЫЯ КНІГІ

**Shimon Peres. Battling for Peace. London: Orion. 402 c.**

Аўтар мэмуараў Шымон Пэрэс (сапраўднае Сямён Пэрскі), былы прэм'ер-міністар Ізраіля, нарадзіўся ў 1923 годзе ў заходнебеларускім мястэчку Вішнева (цяпер у Валожынскім раёне Менскай вобласьці). Яшчэ васьмігадовым хлопчыкам, сярод беларускіх дрымучых лясоў марыў аб «...сінім небе й цытрусовых садох Эрэц Ізраэль (зямлі Ізраіля)...» Яго мары зьдзейсьніліся ў 1934 годзе, калі ён прыбыў у Палестыну, якая тады была пад брытанскім мандатам.

Сярод успамінаў Ш. Пэрэса ёсьць цікавыя фрагмэнты, прысьвечаныя апісаньню атмасфэры ў міжваеннай Заходняй Беларусі.

«... У школе «Тарбут» (Культура — **М. Ш.**), у якую мяне паслалі, вучылі ў сучаснай гэбрэйскай мове й таксама ў нашым родным ідышы. Але закон вымагаў, каб нас вучылі й па-польску. Аднак польскую мову, як і самых палякаў, у нашых мясьцінах не любілі ані яўрэі, ані не-яўрэі. Вішнева зь яго ваколіцамі былі геаграфічнай часткаю Беларусі. Гэтыя землі знаходзіліся пад расейскім панаваньнем да 1921 г. і потым зноў вярнуліся да расейцаў у 1939 г. Польшча заняла гэтую тэрыторыю пасьля Першай сусьветнай вайны — палякоў уважалі за акупантаў і антысэмітаў, і яны як чужы нясталы элемэнт не маглі застацца тут надоўга...»

У 1992 годзе, праз 58 гадоў па выезьдзе, Ш. Пэрэс, тады міністар замежных справаў, наведаў Беларусь, сваё роднае Вішнева й Валожын.

У Беларусі ён пазнаёміўся зь Пятром Краўчанкам, тагачасным міністрам замежных справ Беларусі, які суправаджаў яго па Вішневе, Валожыне, Менску й пра якога аўтар выказваецца вельмі сымпатычна. П. Краўчанка, па словах Ш. Пэрэса, ёсьць «...асаблівa ветлівы чалавек.... добра начытаны ў яўрэйскай гісторыі, культуры...». А П. Краўчанка сказаў, што Беларусь ганарыцца сваімі яўрэйскімі сынамі — мастаком Маркам Шагалам, пісьменьнікамі Шаломам Алейхэм і Хаімам Нахманам Бялікам.

У Менску Ш. Пэрэс наведаў выдатнага скульптара Заіра Азгура ў ягонай працоўні. Маэстра Азгур, сам яўрэй, выказўся так: «...Розумам я камуніст, а сэрцам яўрэй...» У працоўні Азгура поўна вялізарных помнікаў Леніна, Сталіна, Бэрыі й Гарбачова. Былі там бюсты Канта й рабіна Егуды Галеві.

**М. Швэдзюк**

**Культура беларускага замежжа.** Вып. 3. Мн.: Беларуская навука, 1998. 192 с. Зьмест зборніка склалі даклады Другой Міжнароднай Навукова-Практычнай Канфэрэнцыі «Культура й адукацыя беларускага замежжа», што адбывалася 5—6 кастрычніка 1996 г. у Менску. Сярод матар'ялаў — артыкулы Я. Жучкі «Вучоба ў Лювэнскім Унівэрсытэце», Т. Фёдарцавай «Філязофскі зьмест духоўнасьці сучаснага беларускага замежжа», Л. Юрэвіча «Мітaлягічныя вобразы ў творчасьці Янкі Юхнаўца», Я. Запрудніка «Беларускія мастакі на чужыне — вяшчальнікі Бацькаўшчыны», Р. Гарэцкага «Культура й адукацыя беларускага замежжа» ды іншыя.

Наагул трэба адзначыць, што выдавецтва «Беларуская навука», спадкаемца «Навукі і тэхнікі», грунтоўна распрацоўвае тэму беларускага замежжа. На 1999 год заплянаваныя да выданьня наступныя кнігі:

**Беларуская эміграцыя: Нарысы гісторыі.** У кнізе насьвятляецца гісторыя нашае эміграцыі з часоў Вялікага Княства Літоўскага да пачатку 90-х гадоў XX ст. Дасьледуюцца прычыны эміграцыі ў розныя гістарычныя пэрыяды на кожным этапе.

**Беларуская эміграцыя. Гісторыя й сучаснасьць: Зборнік дакумэнтаў. Частка I (80-я гады XIX ст. — 1939 г.).** Падаюцца дакумэнты, прысьвечаныя разнастайным аспэктам жыцьця эміграцыі. Значная ўвага надаецца паказу палітычнай эміграцыі ў міжваенны пэрыяд, дзейнасьці БНР.

**Л. Языковіч. Рэлігія й царква ў жыцьці беларусаў замежжа.** Прасочана рэлігійна-царкоўная дзейнасьць беларусаў у краінах Эўропы, Паўночнай і Паўднёвай Амэрыкі, Аўстраліі. Паказана гісторыя стварэньня й дзейнасьці Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы й Беларускай Праваслаўнай Царквы Паўночнай Амэрыкі (нажаль, складальнікі каталёгу не растлумачылі, якая царкоўная арганізацыя маецца па ўвазе — **заўв. рэд.**), а таксама беларускіх каталіцкіх місій.

**А. Ляднёва. Беларускія дарогі эміграцыі.** Паказана станаўленьне й разьвіцьцё нацыянальных беларускіх арганізацый і аб'яднаньняў у розных краінах сьвету пасьля Другой сусьветнай вайны, а таксама ўдзел беларусаў у дзейнасьці міжнародных арганізацый.

**Л. Савік. Літаратура беларускага замежжа: Нарысы жыцьця й творчасьці беларускіх пісьменьнікаў-эмігрантаў.** У кнізе разглядаецца творчасьць Н. Арсеньневай, М. Сяднёва, А. Салаўя, Ул. Дудзіцкага, Р. Крушыны, Ул. Клішэвіча, М. Кавыля, Хв. Ільляшэвіча, Я. Золака, Я. Юхнаўца, К. Акулы, Ю. Віцьбіча, А. Саковіч, Ул. Случанскага, Я. Германовіча, Ул. Глыбіннага.

**Пазацэнзурны пэрыядычны друк Беларусі. Каталёг. 1971–1990 / Скла-**

# СЬВ. ПАМ. АНТОН АДАМОВІЧ

12 чэрвеня ў Нью Ёрку пасьля васьмёх гадоў нямогласьці й хваробы на 89-м годзе жыцьця пайшоў ад нас Антон Адамовіч — выдатны літаратурны крытык, гісторык, пэдагог, ідэоляг беларускай дзяржаўнасьці.

Нарадзіўся Антон Адамовіч 26 чэрвеня 1909 г. у Менску, на Ляхаўцы, у сям'і мяшчанаў.

У беларускі рух Антон Адамовіч прыйшоў у 1921 г., яшчэ дванаццацігадовым хлопцам — пачаў браць удзел у тэатралізаваных пастаноўках менскага клюбу моладзі «Беларуская Хатка».

Вельмі рана выявіўся ягоны талент літаратуразнаўца. Ён быў самым маладым сябрам літаратурнага аб'яднаньня «Ўзвышша», у якое ўваходзілі найбуйнейшыя беларускія літаратары Янка Купала, Якуб Колас, Язэп Пушча, Кузьма Чорны, Адам Бабарэка.

У 1930 г. у часе масавых арыштаў і высылак беларускай інтэлігенцыі, Антон Адамовіч таксама трапляе пад суд. 5 гадоў высылкі ён правёў у Вяцкай вобласьці.

З пачаткам нямецкай акупацыі Антон Адамовіч пачынае працаваць у «Беларускай газэце». Пасьля няўдалага замаху на ягонае жыцьцё Антон Адамовіч пакідае Беларусь. Яму выпала разьдзяліць лёс тысячаў беларусаў, што трапілі ў лягеры ДП. У адным зь іх, у Міхэльсдорфе, ён выкладаў у беларускай гімназіі.

Калі на бацькаўшчыне Антон Адамовіч стаўся ведамым найперш як літаратурны крытык, дык у пэрыядзе жыцьця на эміграцыі (1943–1998) Антон Адамовіч пакінуў значную выдрукаваную спадчыну і як мовавед, і як палітык (філёзаф нацыянальнае беларускае ідэалёгіі), і як пэдагог, і як пісьменьнік, і, вядома, як літаратурны крытык.

У дзяляньцы мовазнаўства ў супрацоўніцтве зь Янкам Станкевічам выдрукаваў невялікі беларуска-расейскі слоўнічак, колькі дзясяткаў артыкулаў у газэце «Бацькаўшчына» па пытаньнях мовазнаўства ды рэдагаваў безьліч



рэлігійных перакладаў улучна зь перакладамі службовых кнігаў каталіцкіх і праваслаўных набажэнстваў.

Будучы выкладчыкам гісторыі й літаратуры ў Беларускай Гімназіі імя Янкі Купалы ў Заходняй Нямеччыне, Антон Адамовіч апрацаваў некалькі канспэктаў для старэйшых клясаў зь гісторыі беларускае літаратуры, назваўшы іх «На нівах ды ўзвышшах беларускае літаратуры» (Пазьней пад гэткім самым назовам у газэце «Бацькаўшчына» друкаваўся шэраг ягоных літаратурных артыкулаў). Добра ведаючы ангельскую мову, дапамагаў рэдагаваць першы падручнік беларускае мовы на ангельскай аснове *Fundamental Byelorussian* (аўтарства Валянціны Пашкевіч).

Як пісьменьнік Антон Адамовіч ведамы пад псэўдонімамі Юстапчык, Бірыч, Альгердзіч, Склют з творамі, як «Каханы горад», «Афрадыта-Ост», «Усяночная». У літаратурнай крытыцы Антон Адамовіч пакінуў каля сотні выдатных аналізаў як беларускіх паэтаў і пісьменьнікаў на эміграцыі, гэтак і глыбока ўдумлівых аналізаў такіх раней забароненых у БССР, а выдрукаваных на эміграцыі твораў, як «Тутэйшыя» й «Раскіданае гняздо» Я. Купалы, «Запіскі Самсона Самасуя» А. Мрыя, «Нядоля Заблоцкіх» Л. Калюгі (усё пад псэўданімам Раман Склют). Аналіз творчасьці Алеся Гаруна, першая манаграфія пра Ул. Жылку — да дваццатых угодкаў ад дня сьмерці Паэта. А з эміграцыйных паэтаў і пісьменьнікаў Антон Адамовіч рыхтаваў да друку (у тым ліку, пісаў уводныя артыкулы) творы А. Салаўя, Н. Арсеньневу, М. Кавыля, рэдагаваў творы Р. Крушыны, А. Саковіч, Я. Юхнаўца, Ю. Віцьбіча, М. Цэлеша.

Вялікае значаньне й шырокае распаўсюджаньне мелі таксама гэткія працы Антона Адамовіча, як «Беларускае літаратурнае згуртаваньне — Узвышша», «Якуб Колас у супраціве саветызацыі», «Сорак год супраціву Купалы бальшавізму» ды ў гэтай сэрыі найбольшая Адамовічава праца, якая знаходзіцца ў сотнях амэрыканскіх дасьледчых унівэрсытэтаў «Супраціў саветызацыі беларускай літаратуры». Апошнія літаратуразнаўчыя працы Антона Адамовіча — гэта аналіз ананімных паэмаў «Сказ пра Лысую гару», «Роздум ля парадная брамы» ды «Як дух змаганьня Беларусі — да сотых угодкаў Івана Луцкевіча», выдадзеных у Нью Ёрку ў 1980-х гадох.

Антон Адамовіч як палітычны філёзаф пад псэўданімам Нічыпар Недасек напісаў колькі дзясяткаў артыкулаў ды гэткія працы як «Белая Кніга» ў справе нацыянальнага назову, «Да трыццатых угодкаў найвызначнейшых падзеяў нацыянальнага беларускага руху», «Большевизм на путях установления контроля над Белоруссией» ды колькі іншых. Важна падкрэсьліць, што Антон Адамовіч, валодаючы ангельскай моваі, выдрукаваў на розныя тэмы — пераважна беларуская праблематыка й літаратурная крытыка — па-над сотню артыкулаў у англамоўных часапісах, даведніках, энцыкляпэдыях.

Антон Адамовіч быў шырака ведамай асобай як у беларускай грамадзкасьці, так і сярод акадэмічных і палітычных колаў. Ён быў сябрам Рады БНР, БІНІМу, шматгадовым супрацоўнікам радыё «Свабода», удзельнікам шматлікіх савета — і беларусаведных канфэрэнцыяў, выкладчыкам Калюмбійскага Унівэрсытэту (Нью Ёрк).

У Беларускім Інстытуце Навукі й Мастацтва рыхтуецца да друку выбранае з навуковай і творчай спадчыны Антона Адамовіча.

* * *

Пахаваньне Антона Адамовіча адбылося 16 чэрвеня на беларускім могільніку ў Іст-Брансўіку, Н. Дж. Абрад пахаваньня выканаў а. Васіль Андрэюк, настаяцель царквы Жыровіцкае Божае Маці ў Галенд Парку, Н. Дж. Хорам кіраваў сп. Леў Стагановіч.

Правесьці Антона Адамовіча ў апошні шлях прыехалі людзі зь Нью Ёрку, Лонг Айленду, Нью Брансўіку, Саўт Рывэру й навакольля. Тут былі ягоныя сябры, супрацоўнікі, знаёмыя й незнаёмыя зь ім асабіста прыхільнікі ягонага таленту й сьветлага розуму.

* * *

Сьв. пам. Антон Адамовіч не пакінуў па сабе нашчадкаў. За апошнія гады перабываньня ў доме для нямоглых усе ашчаджэньні нябожчыка былі вычарпаныя. Засталася толькі мінімальная сума на паховіны. Тым часам магіла Антона Адамовіча на могільніку ў Іст Брансўіку засталася бяз помніка.

Паставіць помнік на магіле Антона Адамовіча — заданьне тых, хто цаніць ягоную духоўную спадчыну ды шануе ягоную памяць. У тэстамэнце нябожчыка выканаўцам ягонае апошняе волі названы др. Янка Запруднік.

Ахвяры на помнік Антону Адамовічу просьба дасылаць на адрас:
Jan Zaprudnik
42 Deerfield Rd.,
Somerset NJ 08873

---

**дальнікі Юрась Лаўрык і Ларыса Андросік. Архіў Найноўшай Гісторыі. Мн., 1998. 172 с. Наклад 500.**

Неяк мы прызвычаіліся, што, гаворачы пра беларускі супраціў, маем на ўвазе антыбальшавіцкую партызанку, паўстаньні, збройнае змаганьне. І забываемся, што друкаванае слова — таксама зброя ў барацьбе за беларушчыну. Вось пра гэтую здольнасьць слова нам нагадвае кніга «Пазацэнзурны пэрыядычны друк Беларусі».

Такі друк — зьява ў нас малавывучаная. Раней манаполія ў гэтай галіне належала супрацоўнікам КГБ. З аслабленьнем камуністычнага рэжыму ўзьнікла ня толькі магчымасьць, але й неабходнасьць яго вывучэньня, першым вынікам якога й сталася названая кніга.

Каталёг дае панараму пазацэнзурнага друку толькі двух дзесяцігодзьдзяў, узяўшы за ніжнюю храналягічную мяжу 1971 г., калі выйшаў першы нумар «Блакітнага ліхтара» — часапісу, што рэдагаваўся групай студэнтаў Наваполацкага Палітэхнічнага Інстытуту й школьнікаў на пачатку 70-х гадоў і выходзіў накладам усяго ў адзін асобнік. Трэба зазначыць, што пад пазацэнзурным друкам складальнікі разумеюць выданьні дэмакратычнага кірунку, якія зьмяшчалі інфармацыю, альтэрнатыўную афіцыйнай, і выходзілі без кантролю цэнзуры. Прычым, улічваліся ня толькі беларускія, паводле зьместу й мовы, але наагул усе, што выходзілі ў Беларусі: і габрэйскія, і дэнацыяналізаваныя расейскамоўныя.

Выданьні разьмешчаны ў альфабэтычным парадку, да кожнага дадаецца стандартнае бібліяграфічнае апісаньне: склад рэдакцыі (цікава адзначыць, што пераважная большасьць выдаўцоў — сёньня ведамыя на Беларусі людзі; гэта й М. Ермаловіч, і Ул. Арлоў, і С. Дубавец, і А. Бяляцкі, і В. Вячорка, і С. Сокалаў-Воюш, і шмат хто іншы), гады выданьня, фармат, аб'ём, наклад, спосаб рэпрадукаваньня, па магчымасьці называюцца найбольш важныя, актуальныя матар'ялы. Па магчымасьці — бо далёка ня ўсе нумары зводзілі адшукаць складальнікі каталёгу; часам увесь наклад зьнікаў у лёхах КГБ, які ня грэбаваў нават звычайным крадзяжом, поркаючыся ў кватэрах сябраў рэдакцыі ў адсутнасьць гаспадароў. Але побач з такімі ўнікальнымі выданьнямі ў адзін-два нумары стаяць газэты, што зь цягам часу пачалі выходзіць вялікімі накладамі й сталіся ведамымі ўсёй краіне й за яе межамі: «Свабода», «Наша Слова», «Навіны БНФ».

Нягледзячы на тое, што жанр гэтай кнігі — бібліяграфія, яна дае падставы ня толькі для роздуму, а й для прароцтваў. А. Дзярновіч, дырэктар выдаўца кнігі — Архіву Найноўшае Гісторыі, зазначае: «... З пазыцыяў сёньняшняга дня мы ўзгадваем ня толькі лібэральны пэрыяд першай паловы 90-х, пасьля аднаўленьня беларускае незалежнасьці, але й 60-я, 70-я, 80-я, калі ўмовы для выдавецкай дзейнасьці былі яшчэ значна больш складаныя, чым нават сёньня, а прыхільнікам вольнага слова пагражалі сапраўдныя рэпрэсіі. Тым ня менш, пазацэнзурны друк і тады знаходзіў сваіх аўтараў і чытачоў». Гэтая заява дадае аптымізму ў сёньняшнім змаганьні, калі ў шмат каго апускаюцца рукі, бо зьявілася новая хваля пазацэнзурнага друку (адзін з апошніх прыкладаў — газэта «Беларускі партызан»), бо бачна: пасьлядоўнасьць і пераемнасьць ёсьць выразнаю асаблівасьцю беларускага друку, а гісторыя, паўтору на сьледам за А. Дзярновічам, толькі пішацца. Кропку ў змаганьні ставіць зарана.

## СЬВ. ПАМ. НАТАЛЬЛЯ ЧАМЯРЫСАВА

2 верасьня у Ст. Пітэрсбургу, Флорыда, на 93-м годзе жыцьця памерла Натальля Чамярысава — акторка, опэрная сьпявачка, былая жонка кампазытара Міколы Куліковіча. Нябожчыца нарадзілася ў Смаленску, дзе Мікола Шчаглоў-Куліковіч працаваў настаўнікам. Там яны пажаніліся. У 1949 годзе, перад выездам у Амэрыку, Куліковічы ўзялі развод. Пазьней Натальля выйшла замуж за Майсеева, захоўваючы прыязныя дачыненьні з былым мужам.

Натальлю Чамярысаву шмат хто зь беларусаў, якія жылі ў Нямеччыне, ведаў па ейных бліскучых ролях у канцэртах тэатральнай трупы «Жыве Беларусь». Трупа зь вялікай удачай выступала па беларускіх асяродках.

Пад кіраўніцтвам Міколы Куліковіча «Жыве Беларусь» адыграла выдатную ролю ў мастацкім і духовым жыцьці беларусаў ваеннае й паваеннае Нямеччыны. Трупа чакае на свайго гісторыка, які раскажа пра яе падзьвіжніцкую дзейнасьць ды ўдзел у ёй сьв. пам. Натальлі Чамярысавай.

## У КУЛЮАРАХ

*(Працяг з с. 5)*

Радуе, што тут ёсьць актыўнае жаданьне ўзьдзейнічаць на тыя працэсы, што адбываюцца на Беларусі. Эміграцыя не зацыкліваецца сама на сабе, а імкнецца думаць пра Беларусь. Для мяне гэта было новае й вельмі важнае ў маральным сэнсе.

***«Б.»:** У чым несупадзеньне ва ўяўленьнях пра сытуацыю ў Беларусі тут і ў самой Беларусі?*

**А. Я.:** Паспрабую паказаць на прыкладзе. Адная з тэмаў дыскусійных групаў была «Выбары 1999 году». Гэтая тэма для Беларусі важная, але на наш погляд, самі выбары — гэта ініцыятыва Лукашэнкі. Нам яны ў прынцыпе нічога добрага даць ня могуць. Таму абмеркаваньне такой тэмы — толькі рэакцыя на ініцыятыву Лукашэнкі, гэта не пазытыўны акт. Больш важна было-б абмеркаваць, як пашырыць у Беларусі кампанію за грамадзянства БНР. Яшчэ адзін прыклад: стаўленьне да апазыцыйных арганізацыяў. Я чуў пытаньні: чаму-б нам, прадстаўнікам розных палітычных партыяў на Беларусі, не аб'яднацца, чаму-б не падтрымаць адзінага дэмакратычнага кандыдата на будучых выбарах.

На наш погляд, галоўным на Беларусі застаецца захаваньне беларускасьці, беларускай культуры. Размова не пра адраджэньне, а хоць-бы выратаваньне. Я ня думаю, што ў нас будуць вялікія праблемы з дэмакратыяй, а вось беларускасьць у Беларусі трэба ратаваць.



***«Б.»:** Дык у чым несупадзеньне? Адное пытаньне, ці варта падтрымваць агульнага кандыдата, а зусім іншае, чым займацца. Нічога дзіўнага, што Багданкевіч займаецца агульнымі пытаньнямі дэмакратыі, а мы займаемся нацыянальнымі праблемамі. Гэта само сабой зразумела. А вы неяк увязалі гэта ў адну праблему — праблему адзінага кандыдата на выбарах. Я такой сувязі ня бачу.*

**А. Я.:** Для беларусаў пытаньне падтрымкі-непадтрымкі агульных кандыдатаў ці працы ў галіне разьвіцьця дэмакратыі, разумеецца само па сабе й для нас яно неактуальнае. Мы й так падтрымваем дэмакратаў. Таму больш важным уяўляецца пашырэньне беларускасьці, пашырэньне руху грамадзянства БНР.

***«Б.»:** Значыць, праблема выбараў, за каго галасаваць, з кім уваходзіць у блёк — праблема, калі ня сотая, то нумар 2, нумар 5, але ня самая галоўная. А праблема нумар 1 — ратаваньне беларушчыны. Я слушна зразумеў?*

**А. Я.:** Менавіта гэта я меў на ўвазе.

***«Б.»:** Якія ўражаньні ад Нью Ёрку?*

**А. Я.:** Гэта сапраўды сталіца сьвету. На Мангэтане адчуваеш, што недзе тут б'юць крыніцы сьвежай крыві, якая разыходзіцца па ўсім сьвеце.

***«Б.»:** Што нас уратуе, ці ёсьць выйсьце?*

**А. Я.:** Выйсьце ёсьць. І тут ізноў будзе актуальным пытаньне акцэнтаў. Для нас, маладых, ня ёсьць пытаньнем, штó рабіць, а ёсьць пытаньнем, як рабіць. Мы кажам, што пэрыяд кіраваньня Лукашэнкі — гэта вялікі прамежак часу, было шмат добрых ідэяў, як пазбавіцца дыктатуры, але палітыкам і людзям, якія іх патрымваюць, не хапала моцнай волі, каб пераламіць волю Лукашэнкі. Нам здаецца, што трэба сканцэнтраваць волю на барацьбу з рэжымам і ўмацаваць веру, што нашая беларуская справа — сьвятая, што нашая справа — непераможная. Нам ня брукуе плянаў — мы маем шмат добрых плянаў, нам бракуе волі й веры.

***«Б.»:** Якія гэта пляны?*

**А. Я.:** Канкрэтна мне не хацелася-б гэтага апісваць, а агульна: нам трэба разьвіваць два кірункі. Пры дастатковай упартасьці й мабілізацыі гэта можа прывесьці да посьпеху. Першае — рух грамадзянства БНР, асабліва сярод студэнцтва. Студэнцтва прымае й акцэптуе, тыя ідэі, што дэкляруе грамадзянства БНР. На Беларусі гэтая праца вядзецца вельмі квола. З другога боку, зараз ёсьць мінімум дзьве катэгорыі насельніцтва, якія, думаю, не прымаюць рэжыму. Яны гатовыя ўдзельнічаць у акцыях пратэсту, але павінны быць упэўненыя, што гэтыя акцыі прынясуць плён. Я маю на ўвазе студэнцтва й шырокую працоўную клясу. Гэтым людзям, якія знаходзяцца ў росквіце сілаў, найбольш крыўдна, што яны маглі-б рэалізоўвацца, аднак гэтага не адбываецца, час ідзе, а зьменаў няма. Мы маем плян, як змабілізаваць гэтыя дзьве катэгорыі на больш актыўную барацьбу.

***«Б.»:** Колькі Вам гадоў, адкуль Вы?*

**А. Я.:** Мне 22 гады, я зь Менску, з працоўнага раёну Чыжоўка.

***«Б.»:** Чым Вы займаецеся?*

**А. Я.:** Я скончыў Дзяржаўны Эканамічны Ўнівэрсытэт. Асноўная мая дзейнасьць — «Малады Фронт». Але я там, натуральна, не зарабляю грошай. Зарабляю я перакладамі зь нямецкай мовы.

***«Б.»:** Ці расьце арганізацыя апошнім часам? Ці становіцца яна больш дынамічнаю? Ці наадварот, адчуваецца занапад?*

**А. Я.:** Разьвіцьцё арганізацыі ідзе імпульсамі. Апошнія колькі месяцаў пайшоў новы імпульс, да нас прыйшло шмат новых сябраў. Гэта адбылося пераважна на хвалі прыхільнасьці да беларускага року. Нечакана нават для нас беларускамоўныя рокавыя гурты сталі вельмі папулярныя, канцэрты зьбіраюць шмат народу й носяць выразнае палітычнае адценьне. Туды прыносяць бел-чырвона-белыя сьцягі, там скандуюць «Жыве Беларусь!», і шмат людзей, што не былі заангажаваныя ў нейкія арганізацыі, прыходзяць да нас. Перад гэтым, увесну, быў спад: пачыналася сэсія, пачыналіся іспыты.

***«Б.»:** Адкат хвалі...*

**А. Я.:** Так. А зь ліпеня пайшоў прыліў.

***«Б.»:** Ці адбыўся знакаміты традыцыйны фэст «Рок на вакацыях», які заўсёды праходзіць 1 верасьня?*

**А. Я.:** Так, быў. Неглездзячы на тое, што ў гэты час на плошчы Незалежнасьці гарадзкія ўлады зрабілі вялікую імпрэзу, на якую быў запрошаны супэрпапулярны расейскі гурт «На-на».

***«Б.»:** Верагодна, гэта было зроблена недзе й з тою мэтаю, каб публіка ня прыйшла на беларускі «Рок на вакацыях»?*

**А. Я.:** Але людзі прыйшлі — тысячы. Натуральна, былі й бел-чырвона-белыя сьцягі. Як звычайна, на канцэрце былі ўнутраныя войскі, што сачылі за тым, каб нацыянальныя сьцягі ня ўзьнімаліся. Але з выступам чарговай групы — гэта быў гурт NRM (Народная Рэспубліка «Мроя» — **заўв. рэд.**) — аднача сна столькі сьцягоў было паднята, што вайскоўцы не рызыкнулі кідацца адымаць, і з таго моманту сьцягі луналі над грамадой.

***«Б.»:** І нікога не схапілі?*

**А. Я.:** Не, па нашых зьвестках, нікога. І разыходзіліся людзі разам, вялікімі групамі, сьпяваючы песьні.

## АХВЯРАВАНЬНІ

**На выдавецкі фонд газэты «Беларус»**

| | |
|---|---|
| З. і В. Кіпелі | 100 |
| В.М. | 100 |
| М. Сагановіч | 100 |
| В. і Ф. Бартуль | 100 |
| Др. Б. Кіт (замест кветак на магілу др. Яўхіма Скурата) | 100 |
| Др. М. Смаршчок (замест кветак на магілу др. Вітаўта Тумаша) | 100 |
| І. і В. Ільчук | 60 |
| А. Шурак | 50 |
| М. Вайтовіч | 50 |
| В. і Л. Ракуць | 50 |
| М. і .В. Сьнежка | 50 |
| Л. Барысавец | 36 |
| Л. і А. Вінакураў | 30 |
| Т. Паланевіч | 30 |
| Ю. і В. Шамецька | 30 |
| А. Талянскі | 30 |
| С. Чаховіч | 30 |
| О. і Л. Яськевіч | 30 |
| Б.П. Косараў | 5 |
| М. Яськевіч | £5 |

**У памяць Леаніда Літаровіча**

| | |
|---|---|
| Л. Літаровіч | 150 |

**На калядные вітаньні**

| | |
|---|---|
| Хв. Кажаневіч | £20 |

**Сабрана на 23-й Сустрэчы**

| | |
|---|---|
| Беларуская Харытатыўная Сэкцыя Вялікае Брытаніі | 250 |
| др. В. Набагез | 100 |
| Ф. і В. Бартуль | 100 |
| І. Сурвіла | 100 |
| Н. і Я. Запруднік | 50 |
| др. Я. Сажыч | 50 |
| Р. Станкевіч | 50 |
| Ст. Тамара Кольба | 50 |
| Я. і К. Вініцкія | 50 |
| Н. Жызьнеўскі | 50 |
| Л. Норык | 40 |
| В. Кажан | 40 |
| А. і Н. Сільвановіч | 30 |
| Л. Стагановіч | 25 |
| Япіскап Мікалай | 20 |
| А. Кіпель | 20 |
| А. Сёмуха | 20 |
| А. Субота | 20 |
| В. Тур | 20 |
| В. Тумаш | 20 |
| А. Кажан | 20 |
| Н. і В. Сьнежка | 20 |
| Я. Азарка | 20 |
| Г. Навумчык | 20 |
| Ю. Касьцюкевіч | 20 |
| М. і К. Верабей | 20 |
| М. і Л. Сагановіч | 20 |
| Я. Каханоўская | 15 |
| М. Каранеўскі | 10 |
| а.Васіль | 10 |
| а.Зьміцер | 10 |
| а. А. Яноўскі | 5 |
| І. Курапаткіна | 5 |
| М. Прускі | 5 |

**На помнік і выданьне працаў сьв. пам. Антона Адамовіча**

| | |
|---|---|
| П. Урбан | 169 |
| Я. Азарка | 100 |
| Т. Кольба | 100 |
| В. Шчэцька | 100 |
| З. Смаршчок | 100 |
| Л. Бяленіс | 100 |
| І. Пануцэвіч | 100 |
| А. і Н. Жызьнеўскія | 100 |
| М. Каранеўскі | 50 |
| А. Кабяка | 50 |
| П. Найдзюк | 50 |
| Г. Касоўскі | 30 |
| Г. Шэйпак | Aus$50 |

**На дзейнасьць БІНІМу**

| | |
|---|---|
| А. Талянскі | 20 |

**У памяць Леаніда Літаровіча**

| | |
|---|---|
| З. і В. Кіпель | 50 |

**На Фонд Памяці Н. Арсеньневай**

| | |
|---|---|
| др. Я. Запруднік | 100 |
| А. Субота | 60 |
| др. М. Смаршчок | 50 |

**На БелПом**

| | |
|---|---|
| Л. Шурак | 100 |
| Б. Даніловіч | 75 |
| А. Міцкевіч | 55 |
| Я. Юхнавец | 25 |

Ахвяры на БелПом просім дасылаць на адрас: Mr. A. Mickievic, 90-16 54th Ave., Elmhurst, NY 11373.